PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 33 (2101) Год XLI Беласток 18 жніўня 1996 г. Цана 70 гр. (7 000 ст. зл.)

# Усё-такі крышачку свая

У Драгічын з Беластока не так і далёка, кіламетраў 120, але існуе ён быццам ужо па-за нашым беларускім светам. Тутэйшы праваслаўны народ вызначаецца толькі паводле веравызнання. Нават на вёсцы гавораць ужо па--польску.

— З пачатку нейк дзіўна было слухаць: „Proszę księdza", „Z Panem Bogiem", „chciałbym dać na mszę", — успамінае а. Заброцкі, настаяцель Драгічынскага праваслаўнага прыхода. Ён прасіў прыхаджан, каб гаварылі на яго „бацюшка", а не „ксёндз" і карысталіся праваслаўнай тэрміналогіяй. Дабіўся таго, што кажуць цяпер: „Proszę księdza, chciałbym zamówić liturgię".

Па-беларуску гавораць яшчэ ў Клекатове і адзінкі са старэйшых у Буяках і Сяневічах.

У Драгічынскім прыходзе 609 душ (другі праваслаўны прыход на тэрыторыі гміны знаходзіцца ў Наройках). У самім Драгічыне праваслаўных 152 душы. Гэта на 40% менш, чым 30 гадоў таму.

У 100% праваслаўная вёска Клекатова. У Заечніках праваслаўных палова. У Буяках — 19 праваслаўных дамоў, у Мінчэве і Сяневічах — па 10, у Хутковічах — 2 дамы. У Танкелях апошняя праваслаўная памерла тры гады таму.

Звяліся ўжо праваслаўныя на тым беразе Буга, на г.зв. „рускай старане". Трымаліся яны там недзе да 60-х гадоў, таксама ў Горах і Бужысках. Цяпер на тым беразе ўсяго дзве праваслаўныя душы.

Як і ўсюды, існуе тут праблема старых кавалераў. У самых Заечніках яшчэ некалькі гадоў таму было іх 45. Цяпер частка ўжо памерла, не без дапамогі гарэлкі, якую выпівалі празмерна ад безнадзейнасці.

Што цікава, летась у мястэчку Драгічыне памерла больш людзей, чым нарадзілася, падчас як у вёсках гміны нараджэнняў і сканнанняў было пароўну.

Мястэчка гадамі было запушчана. Чуў я калісьці, што „народная ўлада" недалюблівала Драгічын з прычыны „рэакцыйнасці" яго насельніцтва. Тым часам мястэчка, цудоўна паложанае над Бугам, магло б стаць сапраўднай турыстычнай жамчужынай. Ніколі не забуду, як некалькі гадоў таму вадзіў я па Драгічыне ізраільскага турыста. Ён прыехаў сюды, каб наведаць месца нараджэння сваёй маці, якая эмігравала ў Ізраіль у 1936 г.

Ізраільцянін, стоячы на надбужанскім лузе, пагладзеў вакол і сказаў: „Мы з пустыні зрабілі агарод. Тут павінен быць рай".

Усё-такі нешта ў Драгічыне робіцца. Увесь цэнтр мястэчка раскапаны. Праводзяць вадасцёкавую каналізацыю, а пасля пакладуць новы асфальт. У будучым годзе чакаюць тут рымскага папу. З гэтай нагоды горад безумоўна папрыгажэе.

Драгічын наогул горад вельмі каталіцкі. Тут знаходзіцца сядзіба біскупства. Адносіны між каталікамі і праваслаўнымі звычайна добрыя, хаця здараюцца дробныя хібы. Адкрываючы новую школу нейк забыліся пра праваслаўны акцэнт ва ўрачыстым сяткаванні. Нават некаторыя каталікі пыталіся, чаму ксёндз Заброцкі не сказаў малітвы.

Праваслаўныя наогул слаба ўдзельнічаюць у грамадскім жыцці гміны. У гарадской радзе толькі адзін праваслаўны — камендант паліцыі. У гміннай радзе праваслаўных зусім няма. Калі дадаць да гэтага, што тутэйшыя праваслаўныя не лічаць сябе беларусамі, няма дзіву, што няма тут беларускіх культурных мерапрыемстваў. Толькі падчас ваяводскага агляду калядніков прыязджаюць у Драгічын беларускія калектывы.

Ёсць усё-такі ў Драгічыне ўстанова, дзе завялася беларушчына. Гэта каталіцкая духоўная семінарыя. Як паінфармаваў мяне ксёндз-рэктар Януш Лаеўскі, усе тутэйшыя алюмны абавязкова вывучаюць беларускую мову на III і IV курсах дзве гадзіны ў тыдзень. Навучанне беларускай мове ўведзена некалькі гадоў таму па ўказанні Апостальскай сталіцы. У навучанні ідзе пра тое, каб алюмны пазнаёміліся з літургічнымі кніжкамі і ўмелі чытаць па-беларуску, з увагі на магчымасць місійнай працы ў Беларусі. Цяпер у Беларусі працуюць 6 выпускнікоў драгічынскай семінарыі.

Клопат толькі з настаўнікамі. Адзіная асоба ў Драгічыне, якая вывучала беларускую мову — гэта матушка Заброцкая. Атрымала яна нават прапанову навучаць алюмнаў, але палічыла, што гэта было б нечым дзіўнаватым. Такім чынам улады семінарыі просяць, каб ім прысылалі клірыкаў з Беларусі і яны вучаць іншых. Цяпер з Беларусі тут Вячаслаў Барок з Міёраў. Ён і навучае беларускай мове.

З Драгічына заязджаем яшчэ ў недалёкія Сяневічы. У вёсцы заходзім да солтыса Яна Семенюка. Солтыс з жонкай у полі, але прымае нас яго бацька, таксама Ян.

У Сяневічах 10 праваслаўных дамоў на 40. Вёска на першы погляд багатая, поўнасцю мураваная. Ян Семянюк паясняе, што ўсе пабудаваліся „за Герка", дзякуючы сямятыцкаму прадпрыемству „Hortex". Расказвае, што калісь за морквў з 12 араў Семенюкі паставілі ў сябе цэнтральнае ацяпленне. На другі год пасеялі паўгектара, але за атрыманыя грошы маглі б купіць ужо толькі некалькі радыятараў.

З агародніцтвам (фасоля, морква) наогул латарэя. І часы ўжо не такія добрыя для сялян. У вёсцы некалькі дамоў пустуюць, хаця наогул людзі трымаюцца тут зямлі. Яна поўнасцю III і IV класаў. За гектар даюць 60 мільёнаў старых злотаў. Але ўжо ў Сківах, 9 кіламетраў далей, толькі 20 мільёнаў. Людзі тут дарабляюць яшчэ паездкамі ў Бельгію. З саміх Сяневіч у Бельгіі цяпер 10 асоб.

Сяневіцкія праваслаўныя пасяліліся тут на пачатку XX стагоддзя. Зямлю тут купіў дзед старэйшага Семенюка. Гэты дзед прыехаў з Беразова. Спадар Семянюк нават быў у гэтым Беразове, але не помніць, ці яно Новае, ці Старое. Ездзіў у Гайнаўку да брата і па дарозе з жахам дзівіўся на пустыя вёскі і зарослыя пустазеллем палі.

Старэйшы Семянюк помніць яшчэ крыху „па-руску" і адзначае, што ў Расіі, калі там быў, яму сказалі, што гаворыць ён зусім не па-руску. Тутэйшых праваслаўных каталікі называлі „літвінамі". „Jak powiedział Litwin, to jemu lżej było, — успамінае спадар Семянюк, — a teraz to czasem kacapem nazwą".

Жывуць усё-такі дружна. Малодшы Семянюк, які вярнуўся з поля, кажа, што ўсіх старэйшых у вёсцы называюць цёткамі і дзядзькамі. Відаць, сапраўды жывуць як у сям'і. Інакш не выбралі б праваслаўнага солтысам. На раднага малодшы Семянюк балатавацца не схацеў. Хапае яму грамадскіх абавязкаў як солтысу і каменданту гміннай добраахвотнай пажарнай аховы. „І так ужо амаль святы я зрабіўся. Прыватна ў царкву хаджу і на ўсіх гмінных урачыстасцях, якія суправаджаюцца каталіцкай імшою, бывць выпадае", — смяецца Семянюк.

Пакідаю Пабужжа з пачуццём нейкай раздвоенасці. Успамінаю, як калісь адзін з удзельнікаў студэнцкага рэйду „Бацькаўшчына", убачыўшы пад Драгічынам запрэжку без дугі, сцвердзіў: „Гэта не наша зямля". Магчыма, не наша, але усё-такі крышачку свая.

**Алег Латышонак**



*У драгічынскай царкве Св. Мікалая.*

# Мы прачыталі

*CIA do spółki z polskimi kolegami dybie w Warszawie na prezydenta Białorusi Łukaszenkę — doniósł Wiktor Iliuchin, przewodniczący parlamentarnej komisji d.s. bezpieczeństwa narodowego Rosji. Ale Aleksander Łukaszenko może spać spokojnie, bowiem minister spraw wewnętrznych Polski Zbigniew Siemiątkowski, pełniący nieoficjalnie funkcję ministra telekomunikacji (podsłuchy), zajęty jest obecnie operacją znacznie poważniejszą: demaskowaniem powiązań świata przestępczego z dziennikarzami.*

*Często zdarza się, że dziennikarze tropią i demaskują funkcjonariuszy władzy. Ale żeby funkcjonariusz władzy tropił dziennikarzy? Toż to — wyłączywszy kraje, gdzie wolność słowa i prasy są warte funta kłaków — kuriozum tak duże, jak samo pojęcie „powiązania świata przestępczego ze światem mediów". Po jakie licho bossowie mafii mieliby zawiązywać kontakty z dziennikarzami? Żeby ci reklamowali społeczne pożytki z prostytucji, zbawienne skutki narkomanii, bądź dobrodziejstwa hazardu? „Nastrój znaczy u nich więcej niż rozumowanie i argumenty — sztuka rządzenia Polakami polega na rozniecaniu odpowiednich nastrojów" — oceniał rodaków Józef Piłsudski. Piłsudski wiedział co mówi, a Siemiątkowski wie, co robi.*

*Wprost, nr 31*

* * *

*Organizatorzy akcji przeciw pismom porno w Białymstoku zapowiedzieli bojkot kiosków i sklepów, które sprzedają te pisma. Ich akcja odniosła odwrotny skutek. Zainteresowanie czasopismami erotycznymi wzrosło.*

*Kurier Poranny, nr 174*

* * *

*Najpopularniejszym bohaterem filmowym komunistycznej Polski był akowiec, a ulubioną postacią wolnej Rzeczypospolitej stał się ubek.*

*Polityka, nr 30*

* * *

*Pomału spełnia się marzenie Łukaszenki, o którym mówi podczas niemal każdego publicznego wystąpienia — skonsoliduje on naród i siły polityczne. Tylko, że nie wokół siebie, a przeciwko sobie.*

*Gazeta Wyborcza, nr 175*

* * *

*На адным з паседжанняў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь быў абраны галоўны рэдактар „Народнай газеты". Ім стаў дэпутат Леанід Юнчык. Некалькі дзён да гэтага на гэтую самую пасаду указам Прэзідэнта Лукашэнкі быў назначаны Міхаіл Шыманскі. І хто цяпер будзе кіраваць газетай.*

*Наша слова, н-р 25*

Палкоўнік Замяталін — на нашу думку.

* * *

*Bractwo Prawosławne przez niemałą część prawosławnych postrzegane jest jako organizacja tradycjonalistyczna i konserwatywna, porównywalna do katolickiego Zjednoczenia Chrześcijańsko-Narodowego. O ile wątek chrześcijański jest przez Bractwo odpowiednio i umiejętnie akcentowany, to podejście do spraw narodowych trudno do końca rozszyfrować. Podczas obrad Bractwa 22 czerwca b.r. słyszało się propozycje, aby zamienić audycje białoruskojęzyczne na rosyjskojęzyczne...*

*Czasopis, nr 7—8*

* * *

*Co drugiemu pacjentowi przebywającemu w szpitalu lekarz sugerował, że dla własnego dobra powinien dać łapówkę. Średnio bezpłatny pobyt w szpitalu kosztował w tym roku 460 zł. Można jednak mówić o pewnej wrażliwości społecznej lekarzy. Podobno od biedniejszych biorą mniej.*

*Kurier Poranny, nr 173*

* * *

*Widziałem niedawno pijanego żołnierza. Bardzo się ucieszył, że mnie zobaczył, (rozpoznał nawet!) i powiedział iż on stawia i że ... jest tylko pewien kłopot. Pas kupisz ode mnie. Powiedziałem, że karabin bym kupił. Rozłożył ręce i stał zielony rozczochrany, bez czapki jak polska wierzba w pijanym krajobrazie. Gdy pijany senator Henio przemawiał w Senacie, to wszyscy huzia na Henia. „Decyzje dotyczące całego społeczeństwa podejmują pijani senatorowie. Szczególnego znaczenia nabiera ten fakt, że dzieje się to w dniu, kiedy Senat głosuje ustawę o wychowaniu w trzeźwości" — powiedziała jedna pani senator. Inni ją poparli i wyrzucono Henia z klubu. Ale na szczęście nie było mu przykro, bo był pijany i nawet tego nie zauważył.*

*A ja chcę zwrócić uwagę na jedną rzecz. Ponieważ społeczeństwo nasze do najtrzeźwiejszych nie należy, czy nie jest zatem uczciwe i godne szacunku, że decyzje dotyczące w części pijanego społeczeństwa podejmują w części pijani senatorowie? —* пытае Станіслаў Тым.

*Wprost, nr 30*

Вельмі слушнае пытанне!

# З мінулага тыдня

**На XXVI Алімпійскіх гульнях** у амерыканскім горадзе Атланце найбольш медалёў здабылі спартсмены Злучаных Штатаў Амерыкі (101), Расеі (63) і Нямеччыны (65). Польская каманда апынулася на 11 месцы, здабываючы 17 медалёў: 7 залатых і па 5 сярэбраных і бронзавых. Беларускія спартсмены заваявалі 15 медалёў (1 залаты, 6 сярэбраных і 8 бронзавых) і занялі 37 месца.

**Управа горада Беластока** перадала Гарадской радзе на разгляд і ўхваленне праект „Стратэгіі развіцця Беластока". Асноўнымі мэтамі праекта з'яўляюцца паправа варункаў жыцця жыхароў горада і стану асяроддзя. Беласток, побач Любліна, мае быць на ўсход ад Віслы значным гаспадарчым цэнтрам, з высокаразвітой сельскагаспадарчай, мэблевай, лёгкай і машынабудаўнічай прамысловасцю. Да 2010 года ў горадзе павінна арганізавацца некалькі навучальных установаў, выпускнікі якіх атрымаюць вышэйшую прафесійную адукацыю. Беласток павінен таксама стаць цэнтрам абслугоўвання турыстычнага руху ў рэгіёне і арганізатарам міжнародных кірмашоў. Рэалізацыя самых неадкладных дэталёвых задач гэтага праекта ў найбліжэйшых чатырох гадах абыдзецца гораду сумай 2 більёнаў старых злотаў.

**18 Беластоцкая бранятанкавая брыгада** папоўнілася амаль 150 прызыўнікамі. Пасля месячнага абучэння навасцечаныя салдаты дадуць ваенную прысягу. Амаль усе прызыўнікі паходзяць з Беластоцкага і Ломжынскага ваяводстваў.

**Міжнародны маладзёжны тэалагічны інстытут** працаваў на працягу дзесяці дзён у Супраслі. У занятках па праваслаўнай дагматычнай тэалогіі, літургіцы, гісторыі Царквы, экзегезе Свяшчэннага Пісання і іканаграфіі прымала ўдзел семдзесят слухачоў з Францыі, Грэцыі, Вялікабрытаніі, Канады, ЗША, Румыніі, Літвы, Беларусі і Польшчы. Арганізатарам такой сустрэчы выступіў Сындэсмас — Сусветнае брацтва праваслаўнай моладзі, супольна з айчынным маладзёжным брацтвам і Вышэйшай праваслаўнай семінарыяй у Варшаве. Сустрэча моладзі ў Супраслі адбывалася трэці раз.

**„Аграліга'96"** — так называўся конкурс на самых гаспадарлівых сялян Беласточчыны, які арганізавалі Цэнтр сельскагаспадарчых парад, Ваяводская управа і Таварыства аграбізнесу. Пераможцам конкурсу стаў садавод **Ежы Вільчэўскі** з Белавусаў Янаўскай гміны. Два другія месцы занялі авечкагадовец **Ян Адамчук** з Чыжоў і **Генрык Бжазоўскі** з Дамова Бранскай гміны. Вылучэнні ў конкурсе атрымалі: **Мар'я і Францішак Антановічы** з Сыпняў (гм. Гродзіск), **Юзаф і Бажэна Чырынды** са Слохаў-Аннапольскіх (гм. Сямятычы), **Міхалай Кабаць** з Кленік (гм. Чыжы), **Станіслаў Кульпа** з Войшак (гм. Юхнавец) і **Лешак Палінські** з Чэхавізны (гм. Кнышын).

**На Семяноўскім вадасховішчы** адпачываюць дзеці з забруджаных раёнаў Верхняга Шлёнска. Сёлета ў Асяродку дзіцячага адпачынку ў Бандарах прабывала амаль чатырыста дзяцей шахцёраў. Юным турыстам штодзённа арганізуюцца мерапрыемствы і экскурсіі па наваколлі, а таксама ў Гайнаўку і Белавежу. Госцем шлёнскай моладзі быў вядомы нашым чытачам **Фёдар Хлябіч** з Рыбакоў, які чытаў свае беларускія вершы і граў на скрыпцы.

**У Вэнгажэве** адбыўся Сувальскі кірмаш фальклору — конкурс спевакоў і народных калектываў. У ходзе мерапрыемства па-за конкурсам выступілі таксама фальклорныя калектывы з Беларусі, Літвы і Украіны.

## Неўзабаве ў „Ніве"

- **Дыска-поля ў пажарнай рамізе** — рэпартаж Міколы Ваўранюка.
- **Замовы і чары** — рэпартаж Ганны Кандрацюк.
- **Свабодныя прафсаюзы ў Беларусі** — размова Аляксандра Максімюка з Сяргеем Абадоўскім.

# Весткі з Беларусі

**Палітычныя эмігранты**

Лідэры БНФ — старшыня Зянон Пазьняк і прэс-сакратар Сяргей Навумчык звярнуліся да іміграцыйных службаў Злучаных Штатаў Амерыкі з просьбай аб прадастаўленні ім у гэтай краіне палітычнага прытулку. Прадстаўнікі БНФ з канца красавіка 1996 г. знаходзяцца за межамі Беларусі, апасаючыся судовага пераследу за ўдзел у арганізацыі ў Менску масавых акцый пратэсту супраць палітыкі прэзідэнта Лукашэнкі. Ліпень правялі яны ў ЗША. Кіраўніцтва БНФ не сумняваецца, што супраць Зянона Пазьняка і Сяргея Навумчыка ўзбуджана крымінальная справа. Аднак адпаведныя праваахоўныя органы рэспублікі адмаўляюць гэта.

**Заява МЗС**

У сувязі з хадайніцтвам лідэраў БНФ атрымаць палітычнае прытулку ў ЗША Міністэрства замежных спраў Беларусі лічыць неабходным падкрэсліць наступнае: няма ніякіх падстаў сцвярджаць, што ў адносінах да Пазьняка і Навумчыка існуе пагроза палітычнага або фізічнага праследавання. Рэспубліка Беларусь свядома прыняла на сябе абавязацельствы па абароне і захаванні асноўных грамадзянскіх правоў і свабод і робіць усе намаганні па іх дакладным выкананні. МЗС лічыць, што зварот Пазьняка і Навумчыка з просьбай аб палітычным прытулку перш за ўсё накіраваны супраць добрых адносін, якія усталяваліся паміж Беларуссю і ЗША і не мае пад сабой ніякіх грунтоўных юрыдычных або палітычных падстаў.

**Беларусь без крэдытаў**

Штаб-кватэра Сусветнага банка ў Вашынгтоне распаўсюдзіла інфармацыю аб прадастаўленні крэдытаў краінам еўрапейскага і сярэднеазіяцкага рэгіёнаў у 1996 фінансавым годзе, які завяршыўся 30 ліпеня. Агульны аб'ём крэдытаў, выдзеленых пад 61 праект, склаў больш чым 4,2 млрд. дол. ЗША. Для Беларусі крэдытная лінія ў мінулым фінансавым годзе так і не была адкрыта. Прычынай таму стала невыкананне беларускім бокам узгодненых з кіраўніцтвам СБ умоў прадастаўлення крэдытаў. У прыватнасці, на працягу першага паўгоддзя не прыватызавана ніводнага аб'екта рэспубліканскай уласнасці, не выкананы некаторыя іншыя абавязацельствы. У замежных экспертаў выклікае недаразуменне тая акалічнасць, што Беларусь, з'яўляючыся членам Сусветнага банка, не праяўляе актыўнасці ў атрыманні яго крэдытаў, нягледзячы на вострую іх патрэбу.

**Абурэнне Мясніковіча**

Кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта Беларусі Міхаіл Мясніковіч выказаў абурэнне наконт нядаўніх выказванняў старшыні камітэта Дзяржаўнай Думы Расеі па бяспецы Віктара Ільюхіна пра тое, што ЦРУ і апазіцыйныя колы Беларусі рыхтуюць шэраг акцый па дэстабілізацыі сітуацыі ў рэспубліцы з мэтай адхілення ад улады прэзідэнта Лукашэнкі. Міхаіл Мясніковіч падкрэсліў, што кіраўніцтва Беларусі не мае ніякіх адносін да заявы дэпутата Дзярждумы.

**Прабачэнне Шохіна**

Першы намеснік старшыні Дзяржаўнай Думы Расеі Аляксандр Шохін даслаў на адрас старшыні Вярхоўнага Савета РБ Сямёна Шарэцкага спецыяльны ліст, у якім прыносіць прабачэнні за заяву дэпутата Віктара Ільюхіна, якая не адказвае духу ўзаемаразумення і супрацоўніцтва паміж народамі і парламентамі Расеі і Беларусі. Аляксандр Шохін адзначыў, што факты, выкладзеныя ў заяве Ільюхіна, не знайшлі пацвярджэння ў ведамствах бяспекі Расеі і Беларусі. У Дзярждуме Расеі заяву Віктара Ільюхіна расцэньваюць, як праяўленне яго асабістай думкі.

**Новае свята**

Указам прэзідэнта ў рэспубліцы ўстаноўлена свята — Дзень маці, які не з'яўляецца выхадным днём. Яно будзе адзначацца штогод 14 кастрычніка.

**Крадзеж у сінагозе**

З менскай гарадской сінагогі ўкрадзены два скруткі Торы — свяшчэннага яўрэйскага пісання на іўрыце, выкананага тушшу на тонкай цялячай скуры. Эксперты ацэньваюць каштоўнасць скруткаў, нядаўна дастаўленых у Менск са Швейцарыі, прыкладна ў 100 тысяч долараў ЗША. Крадзеж стаў магчымы з-за таго, што памяшканне, у якім захоўваліся рэліквіі, было не замкнёнае, а работнікі сінагогі не надавалі належнай увагі пытанням бяспекі.

# „Прагрэс XXI" у Гарадку

Не паспеў у гарадоцкім урочышчы Барык адгучаць сёмы выпуск фестывалю „Басовішча", а гміна Гарадок ізноў стала гаспадаром вялікай імпрэзы — II фэсту Гаспадарчай уніі гмін „Прагрэс XXI", які прайшоў там у днях 3–4 жніўня г.г. Войт гміны **Яўген Семянюк** заявіў, што гэтая блізкасць у часе абедзвюх імпрэз з'яўляецца выпадковай, але з іншай крыніцы мы даведаліся, што гміна рабіла старанні, каб менавіта ў Гарадку праходзіў гэты фэст.

На фэст прыехалі прадстаўніцтвы наступных гмін: Чорнай-Беластоцкай, Кляшчэляў, Боцькаў, Крыпна, Янава, Кузніцы-Беластоцкай, Крынак, Сідры, Сухаволі, Ясяноўкі, Карыціна і Нараўкі. На фэсце прэзентавалася, зразумела, і сама гміна Гарадок. Усе названыя тут гміны, акрамя Нараўкі, з'яўляюцца членамі Гаспадарчай уніі гмін „Прагрэс XXI" — асацыяцыі, якая была фармальна зарэгістравана 1 снежня 1994 г. Заснавалі яе дзесяць гмін — Кляшчэлі і Ясяноўка далучыліся пазней. Мэтай асацыяцыі, як паведаміў **Пётр Лятала** — старшыня Уніі (ён жа і бурмістр Чорнай-Беластоцкай), з'яўляецца падтрымка невялікім фірмам у галіне фінансавай і падаткавай парады, а таксама прамоцыя агратурызму на абшары гмін-членаў Уніі. Дзеля гэтага Унія стварыла Беластоцкую асацыяцыю агратурызму, якая ў гэты момант распараджаецца 30 кватэрамі для турыстаў, а таксама турыстычнай інфармацыяй. Робіцца захады, каб інфармацыя гэтая была даступнай у абсягу ўсёй краіны. Іншым мерапрыемствам Уніі з'яўляецца Цэнтр падтрымкі бізнесу з сядзібай у Чорнай-Беластоцкай, які заснаваны быў год таму. У распараджэнні цэнтра месцца, між іншым, інфармацыя пра танныя крэдыты. Сам жа фэст гмінаў, — сказаў П. Лятала, — імпрэза выключна забаўляльнага характару, хоць нельга не заўважваць і карысці — новыя знаёмствы і кантакты. Тут я пазнаёміўся з консулам Рэспублікі Беларусь. Ёсць спадзяванне наладзіць абмен фальклорнымі калектывамі з Беларуссю.

На II фэст Гаспадарчай уніі гмін „Прагрэс XXI" у Гарадку склаліся прэзентацыі паасобных гмін, якія выконваліся са сцэны іхнімі войтамі, выступленні калектываў (фальклорных, вакальна-інструментальных, танцавальных) і спартыўныя спаборніцтвы. Хочацца на заканчэнне заўважыць, што спроба арганізацыі Беларускім дэмакратычным аб'яднаннем Злучнасці гмін Усходняй Беласточчыны ў 1991 годзе была ўспрынята кіраўніцтвамі гмін неахвотна — войты, мабыць, баяліся тады падазрэнняў у г.зв. „адколе Беласточчыны ад Польшчы". А вось, прайшло некалькі гадоў і тая ж ідэя прапагандуецца „як адзіны рэцэпт на гаспадарчы прагрэс". **(ам)**

# Канікулы ў Дайлідах

Пачатая пару гадамі назад акцыя „Дзеці Чарнобыля" працягваецца і цяперашнім часам. Ужо аднак без інфармацыйнага шуму і надутага афіцыёзу. У перыяд 29 ліпеня — 19 жніўня гэтага года прабывалі на канікулах у Беластоку дзеці з горада Магілёва і Магілёўскай вобласці (між іншым са Шклова — бацькаўшчыны прэзідэнта Беларусі). Дзяцей ва ўзросце 8–16 гадоў прыехала агулам 40.

Дзеці са сваімі апекунамі расквартараваліся ў інтэрнаце Сельскагаспадарчага тэхнікума ў Дайлідах. Як паведаміў нам адзін з апекуноў групы — **Сяргей Абадоўскі**, старшыня Свабоднага прафсаюза Беларусі ў Магілёўскай вобласці — дзеткі ўжо чацвёрты раз у гэтым месцы. Супрацоўніцтва ў галіне дзіцячага адпачынку пачалося ў 1993 годзе. Беларускі бок у арганізацыі выездаў у Польшчу прадстаўляе якраз Свабодны прафсаюз Беларусі, а ў Польшчы сваю падтрымку даюць Беластоцкі рэгіён „Салідарнасці", Праваслаўная Царква і ўладыка Сава, прэзідэнт Беластока ды Куратория асветы ў Беластоку. У гэтым годзе, — дадаў яшчэ С. Абадоўскі, — ёсць спадзяванне, што да падтрымкі гэтай далучыцца і беластоцкі ваявода.

Дзеткамі ў Дайлідах апякуюцца: Тамара Афоніна (выхавацца), Святлана Пануждаева (лекар), Гжэгаж Астроўскі (кіраўнік летніка), Альжбета Астроўская і Яўгенія Громкаў (настаўніцы тэхнікума). Ад чатырох гадоў у арганізацыі адпачынку ў Дайлідах удзельнічае жыхар гэтага квартала **Казімір Чайкоўскі**, які кожны год на час летніка бярэ на сваёй працы водпуск, каб служыць у гэты час усякай дапамогай дзецям і іхнім апекунам — уключна з выездамі на мяжу і па-за яе. **(ам)**

# Новае ў гміннай асвеце

Калі з пачаткам года школы апынуліся ў гмінным распараджэнні, здавалася, што нічога асабліва не зменіцца. Аднак у Дубіцкай гміне глыбокія перамены адбываюцца. Гмінныя чыноўнікі па справах школьніцтва сталі больш пільна прыглядацца да праблемаў школы. У выніку ў гэтыя канікулы пачаўся рамонт будынка н-р 1 у Дубічах-Царкоўных, чаго ў мінулым не ўдавалася дырэктару дабіцца ў куратарыі. На рамонт адведзена 10 тысяч зл. Настаўнікі таксама атрымалі магчымасць карыстацца ксераксам у Гміннай управе, а гмінныя ўлады згадзіліся раздзяліць усе спалучаныя класы.

На канікулах пачалася ліквідацыя школы ў Грабаўцы. 26 тамашніх дзяцей будуць вучыцца ў суседніх Дубічах. Яе можна было ўжо ліквідаваць некалькі гадоў таму, але хадайніцтва бацькоў і нерашучасць куратарыі прадоўжыла існаванне гэтай школкі. У такой сітуацыі закрыць яе прыйшлося ўладам гміны. Прыгоднае абсталяванне і дапаможнікі трапілі ў школы ў Дубічах і Старым Корніне, а дублеты засталіся на месцы. Многа напрацаваліся настаўніцы з Грабаўца, якім прыйшлося правесці дэталёвую інвентарызацыю і ўсю маёмасць перадаць Управе гміны ў Дубічах-Царкоўных. Ліквідацыя школы нясе за сабою адмоўныя і станоўчыя паслядоўнасці. Карысны бок справы — гэта пабольшанне колькасці вучняў у Дубічах, а ў выніку — раздзяленне спалучаных класаў; змяншэнне выдаткаў на ўтрыманне школьніцтва ў гміне (апал, зарплаты, рамонты). Адмоўнай з'явай трэба палічыць падаўжэнне дзецям дарогі ў школу, пагрозу беспрацоўя для чатырох настаўніц і знікненне асветнай установы з краявіду вёскі. **Славамір Кулік**

# Саша

Прыязджаў да Валі Саша, як гралі
музыкі, музыкі.
Разлучылі яго з Валяй языкі, языкі.
Ой, казалі: „Есці не варыць, не варыць,
Дзецям хлеба не дасць, не падарыць!"

Часам Валя першае каханне ўспамінае.
А муж яе б'е. Здароўе забірае, забірае.
Валя таксама так мужа любіць,
любіць тожа.
Але раздзяліці Бог зможа, толькі
Бог зможа.

# Антаніха

Матацыкл з узгорка ў роў хуценька
бяжыць.
Бедавала Антаніха, што не буду жыць,
А тут мне, браткі, па ёй прыйшлося
тужыць...
Свой Антаніха метад лячэння мела,
Яе слова ніколі мне не надаела.
„Іду загаварыты ковтун і вітёр,
Ды зубную болезь..." Як успомню
цяпер,
Дык зразу ўсміхнуся. Здаровая
Пянёўна Маруся,
Хоць сваім здароўем нікому не
хвалюся.
Каго яшчэ трэба словам палячыць?
Будзьце ўсе здаровы. Трэба умець
жыць.

**Мар'я Пень**

# Кажуць, што...

... чаромхаўскіх тэлефаністак з мясцовай пошты добра па смерць пасылаць. Чалавек намнога даўжэй пажыў бы. Пераканаўся я ў тым, калі ў Варшаву да швагра пазваніць хацеў... Кручу я ручкаю тэлефона, кручу, а ён маўчыць быццам зачараваны. Каля дзесяці мінут так круціў, пакуль пачуў у трубцы голас прыгажуні...

Цікава, дзе яна падзявалася, ці пасля „цяжкай" начной службы „занемагла", ці малілася Богу, каб яшчэ некалькі гадоў працягнулася і ў Чаромсе не ўстанавілі АТС? А мо прасіла „кастуху", каб хутчэй прыбрала да сябе ўсіх вынаходчыкаў, якія ўводзяць у паштовых установах новую тэхніку? **(ус)**

Спадарству
**Веры і Мікалаю ПРУСКІМ**
**са Злучаных Штатаў Амерыкі**
**словы шчырага спачування**
**з прычыны**
**напаткаўшага Іх гора —**
**смерці Бацькоў і Цесцяў**
**— Надзеі і Аляксандра МЛАДЗЯНОЎСКІХ**
**з Кляшчэль**
**выказвае**
**Грамадскі камітэт пабудовы**
**Беларускага музея**
**ў Гайнаўцы.**

# Закончыць лета — у Дубічах...

...на тамашнім вадасховішчы Бахматы. Гэта павінна быць атракцыйная прапанова асабліва жыхарам Бельска і Гайнаўкі.

Дажджлівы пачатак лета ў гэтым годзе дапёк кожнаму: гаспадарам, дзецям, адпачыннікам. Наўрад ці адважыліся пакупацца тыя, хто водпуск правoдзіў у чэрвені або ў ліпені. Толькі пад канец ліпеня пацяплела і ласкавае сонейка заружовіла скуры пляжнікаў, што і выклікала зайздрасць калег, якія з адпачынкам сёлета паспяшылі. (Гэтыя разважанні не датычаць, зразумела, тых, хто з'ехаў кудысьці на Міжземнае або іншае, не менш экзатычнае і цёплае, мора.)

Дык вось, каб палепшыць самаадчуванне і захаваць на, магчыма, халодную зіму, цёплыя ўспаміны з лета, не абавязкова выбірацца ў такія турыстычныя мясціны як Мазуры. Хопіць пад'ехаць у Дубічы-Царкоўныя. З Бельска ці Гайнаўкі гэта каля 20 кіламетраў. У каго няма машыны, можна аўтобусам або і на роварах.

Штучнае азярцо Бахматы — невялікае, але прыгожае, сярод маляўнічых узгоркаў, не атручаных палёў, на ўзлеску. Ёць месца, каб паставіць палатку, раскласці вогнішча ці прыладзіць гіт сезона — грыль (ражон). Вада ў Бахматах чыстая, хаця з-за балотнага дна можа такой не падацца. Таму там больш прыемна, калі няма вялікага натоўпу купальшчыкаў.

У адрозненні ад дна, пляжы ў Дубічах пясчаныя, прыемна на іх паляжаць, добра гуляць дзецям. Можна таксама наняць байдарку, пантон або вадзяны ровар (апошні — 3,5 злота ў гадзіну). Калі хто хоча застацца даўжэй і любіць выгаду, можа зняць пакой у адным з двух гмінных драўляных будынкаў ля самай запруды (8 злотаў у суткі за асобу).

Зрэшты, хопіць у Дубічы пад'ехаць на некалькі гадзін, каб расслабіцца, адпачыць і змяніць ненайлепшыя ўражанні ад лета. Яшчэ ёсць час, так сказаць, апошні момант. **(ак)**

# Такая ўжо доля

Нядаўна сустрэў я на рыначку ў Чаромсе школьнага калегу Міхася Русіна з Беразышчаў. Мне даўно было вядома, што быў ён адным з большых „авечнікаў" у Чаромхаўскай гміне.

Калі мы прывіталіся, я проста запытаў:

— Ты надалей, Міхал, займаешся гадоўляй?

— Яшчэ не закінуў...

— І колькі ж зараз у цябе авечак?

— Статак невялічкі, штук семдзесят...

— Пэўна на воўне можна зарабіць...

— Зусім яна не цэніцца. Каб мне прыйшлося займацца гадоўляй з-за воўны, я даўно быў бы банкрутам.

З далейшай размовы я даведаўся, што М. Русін з'яўляецца членам Саюза авечкагадоўцаў. Апошнім часам гэты саюз наладзіў кантракт з заграінчнай суполкай на пастаўку бараніны за мяжу. Такім чынам Русін мае збыт на свой тавар. Аднак не ўсім сялянам-вытворцам так шанцуе. Напрыклад, пчалаводам...

Многія мае знаёмыя абзаваліся пчоламі. Некаторыя з іх маюць па некалькі дзесяткаў вуллёў... Пры камуне са збытам мёду не было праблемы. Кожную колькасць можна было прадаць „Вітаміне". Зараз пчаляру прыходзіцца шукаць сабе пакупнікоў. Адзін прадае на рынку, другі на „гелдзе", іншы зноў пастаўляе ў прыватныя крамы. Аднак амаль кожнаму вытворцу, мабыць, вядома, што рэнтабельнасць яго „прадпрыемства" не так ужо выгадная. Праца даволі карпатлівая, патрабуе пастаяннага догляду, а ў выніку прыбыль з таго невялікая. Такое ж самае можна сказаць і аб іншых вясковых прадпрымальніках — агародніках ці садаводах.

Кожны на рынку хоча ў селяніна купіць танней, ведаючы дасканала, што гэтаму чалавеку прыбытак з яго працы зусім малы.

А чаму так? Відаць, доля селяніна ўжо такая!

**Уладзімір Сідарук**

# Рускія беларусы

**Апошнім часам лакальная прэса часта інфармуе, што на Беласточчыне вельмі актыўна дзейнічаюць арганізацыі рускай і ўкраінскай меншасцей. У красавіку рускія арганізавалі нават нейкі семінар з удзелам украінцаў і прадстаўнікоў ваяводскай адміністрацыі на тэму талерантнасці на Беласточчыне. Удзельнікі сустрэчы згадзіліся, што найбольшую пагрозу для гэтых меншасцей стварае беларускі нацыяналізм, а асабліва прэса. Казакі і расейцы з падміхалоўскіх і падбельскіх вёсак чамусьці галоўным ворагам новаабранай сабою нацыянальнасці палічылі нацыянальнасць сваіх продкаў.**

Такія анамаліі ў грамадскім жыцці Беласточчыны ўжо здараліся, хаця выглядала гэта менш каларытна чым цяпер, калі выпускнікі Бельскага беларускага ліцэя адкрылі раптам над Нарваю казацкія традыцыі. У 1956 годзе апрача Беларускага грамадска-культурнага таварыства пачало сваю дзейнасць таксама Русское общество (Рускае грамадска-культурнае таварыства). Найбольш актыўнымі яго членамі былі сыны беларускіх сялян — Мікалай Капчук і Мікалай Валкавыцкі. Гэты апошні быў нават інструктарам Галоўнага праўлення РГКТ. Праблемы суіснавання Беларускага і Рускага таварыстваў некалькі разоў разглядаліся Ваяводскім камітэтам партыі. 25 красавіка 1957 г. па прапанове беларускіх дзеячаў ставілася пытанне пра метады дзейнасці беластоцкіх расейцаў. Паводле інфармацыі, якую склаў Мікалай Валкавыцкі з Русского общества, на Беласточчыне ў 1957 г. пражывала звыш 150 тысяч асоб рускай нацыянальнасці. Гэта абазначала, што расейцамі былі ўсе праваслаўныя жыхары ваяводства. Валкавыцкі дамагаўся школ, у якіх усе прадметы выкладаліся б на рускай мове, сродкаў на арганізацыю хору і тэатра, а таксама кінатэатра, дзе паказваліся б выключна савецкія фільмы. Наракаў ён, што цяжка супрацоўнічаць з БГКТ з прычыны нацыяналістычнай прапаганды, якая вялася ў „Ніве". Праяўлялася яна ў тым, што рэдакцыя змяшчала выключна матэрыялы пра дзейнасць БГКТ і выключна на беларускай мове, адмаўляючыся адначасова змяшчаць артыкулы, дасланыя дзеячамі Русского общества. „Інтэрнацыяналісты" з РГКТ успрымалі БТКТ і „Ніву" як нейкія менш вартасныя праявы „русской" актыўнасці. Мікола Капчук абвінавачваў гэтыя беларускія ўстановы ў разбіванні еднасці „русского народа".

Рускае таварыства мела свае каапэратывы, бібліятэкі, па запрашэнню яго дзеячаў на Беласточчыну прыязджалі рускамоўныя хоры і тэатральныя калектывы.

Прадстаўнікі БГКТ у партыйнай камісіі па справах нацыянальных меншасцей, якая разглядала гэтыя праблемы — Піліп Кізевіч і Аляксандр Дадзюк — некалькі разоў звярталі ўвагу, што дзейнасць Рускага таварыства праводзілася сярод беларускага насельніцтва і вяла да яго русіфікацыі, што ў школах, якіх дамагаліся расейцы, вучыліся б беларускія дзеці і беларуская моладзь.

Падчас пасяджэння ўспомненай камісіі Мікалай Капчук заявіў, што ён сам выступіў з Беларускага таварыства і пачаў дзейнасць у расейскім з прычыны антысавецкага нацыяналізму, пануючага ў БГКТ. Паводле гэтага дзеяча, рускія, беларусы і ўкраінцы — гэта адзін народ, і ніхто не можа мець права на абмяжоўванне гэтым тром рускім народам кантактаў з расейскай культурай. Дзеячы Русского общества лічылі беларусаў этнаграфічнай асаблівасцю сярод вялікарускай нацыі. Дзеячы БГКТ апынуліся ў ролі тых, якім трэба даказаць, што яны не з'яўляюцца ні антырасейскімі, ні антысавецкімі нацыяналістамі, а гэта абазначала тое, што прыйшлося ім даказваць, што яны не вярблюды.

Палякі ў справе падзелу сярод беларусаў на расейцаў і беларусаў вялі вельмі лагічную — з іх пункту гледжання — палітыку. Падтрымлівалі яны існаванне гэтага падзелу, але не былі зацікаўлены пашырэннем уплываў расейскай культуры сярод беларускага грамадства Беласточчыны. Імкнуліся яны накіраваць увагу беларусаў на нейкае ўнутранае, але кантраляванае, змаганне. Часта гаварылі пра „tendencje nacjonalistyczne panujące we wzajemnych stosunkach między Białorusinami i Rosjanami". Сабе вызначылі ролю абаронцаў талерантнасці і інтэрнацыяналістычных прынцыпаў у міжэтнічных адносінах.

На пачатку шасцідзесятых гадоў, калі дзейнасць Русского общества пачынала быць мала відавочнай, узнікла справа аб'яднання Беларускага і Рускага таварыстваў. Некалькі разоў праблема гэта ставілася на пасяджэннях галоўных праўленняў абодвух арганізацый. Спалучэння дамагаліся асабліва рускія, але і сярод беларускіх дзеячаў шмат было прыхільнікаў аб'яднання. Старшыня беластоцкага аддзела Рускага таварыства Серафім Мікучэўскі вёў нават актыўную прапаганду наконт пабудовы ў Беластоку „Дома нацыянальных меншасцей", дзе перш за ўсё канцэнтравалася б дзейнасць беларусаў і расейцаў. Ідэю пабудовы такой культурнай установы і аб'яднання таварыстваў падтрымоўвалі таксама беластоцкія польскія камуністы, аднак з увагі на вялікі кошт гэтай інвестыцыі, старшыня Ваяводскага суда Стэфан Нядзведзкі запрапанаваў, каб РГКТ памясціць у будынку БГКТ пры вуліцы Варшаўскай. Мэты такога яднання акрэсліў Тадэуш Дзюбінскі, які ў Ваяводскім камітэце партыі прадстаўляў беластоцкую кураторыю: „Połączenie BTSK i RTSK w jedno towarzystwo byłoby wyjątkowo słuszne, ponieważ te dwa towarzystwa mają podobne programy działania i cele krzewienia kultury narodów radzieckich. Połączenie takie zwiększy skuteczność ich działania". Трэба спадзявацца, што калі б гэты працэс завяршыўся паспяхова, сённяшнія беларускія дзеячы Беласточчыны гаварылі б на мове Лукашэнкі.

Інтэграцыйных імкненняў сярод беларусаў і расейцаў не падтрымалі органы, падпарадкаваныя Міністэрству ўнутраных спраў. Заява прадстаўніка Управы ўнутраных спраў Ваяводскай рады, нейкага Федаровіча, што „połączenie towarzystw nie jest proste, gdyż obywatel narodowości rosyjskiej i białoruskiej ma odrębne tradycje i nasz Rząd widzi te narodowości jako całkowicie odrębne", спыніла на нейкі час народаставаральныя эксперыменты.

**Яўген Міранoвіч**

**Сымон Шаўцоў**

**Песня**

Да самай смерці спявацьму
народу свайму, сваёй Айчыне
і табе, дарагая дзяўчына.
Твая вернасць, адданасць,
любоў і шчырасць
сабой замяняла ўсё на чужыне.
Песні спяваць навучыла.
Любоў да цябе і Радзімы
жыла, будзе жыць,
ніколі не астыне.

* * *

Век дзевятнаццаты —
век быў геройскі.
Жылі Кастусь Каліноўскі
ды Ігнась Грыняўвіцкі.
Век дваццаты — век недарэкаў,
век розных „сашкаў",
вырадкаў, нечалавекаў.

* * *

Дзе твая клятва?
Дзе тое прызнанне?
Дзе абяцанне
на вечнае каханне?
Усё табой забыта,
як і не было бытта.
Усё памерла, адляцела,
Як душа ад памерлага цела.

**Станіслаў Валодзька**

* * *

Адчуваю, Айчына,
Твой журботны пагляд:
Каб не сталі злачынна
Мы адходзіць назад.

Адчуваю, Айчына,
Твой нялёгкі уздых:
І калі ўжо мы здзейснім
Наш сапраўдны уздым?

Адчуваю, Айчына,
Біятокі твае.
Нам людзьмі заставацца б —
Колькі сілы стае,

Каб не сталі злачынна
Мы адходзіць назад,
Каб нарэшце, Айчына,
Твой раз'ясніць пагляд...

* * *

Вядзі з сабою бой
Бой за сябе самога.
У цяжкай бітве той
Ці смерць, ці перамога.

Калі з табою Бог,
То ёсць табе падмога.
Вядзі з сабою бой
Бой за сябе самога.

# Гістарычная памяць

**народаў Вялікага княства Літоўскага і Беларусі XIII—XX ст.**

Такой тэме была прысвечана міжнародная навуковая канферэнцыя ў Гродне ў днях ад 3 да 5 ліпеня 1996 г. Нагода для правядзення яе асаблівая — 500-я гадавіна надання Гродну магдэбургскага права. Галоўны арганізатар, дырэктар Заходнебеларускага гуманітарнага цэнтра даследаванняў Усходняй Еўропы, кандыдат гістарычных навук Дзмітрый Караў добра справіўся з праграмай канферэнцыі і забеспячэннем гасцей. На працягу трох дзён прачытана 46 дакладаў, якія ў меншай ці большай ступені датычылі тэмы. На пленарным пасяджэнні першага дня закраналіся праблемы метадалогіі і тэрміналогіі ў даследаваннях мінулага Беларусі. Прадаўжалася гэтая тэматыка на І круглым стале, азагалоўленым „Метадалагічныя і гістарыяграфічныя аспекты даследавання гістарычнага менталітэту". У рэфератах разглядаліся паняцці нацыі і веравызнання, становішча даваеннай і сучаснай беларускай гістарыяграфіі.

ІІ круглы стол абмяркоўваў праблемы гістарычнай памяці народаў ВКЛ і Беларусі XIII—XX ст.ст., а ІІІ — праблемы брэсцкай уніі і уніяцкай царквы ў гісторыі народаў ВКЛ і Беларусі.

Трохдзённыя разважанні навукоўцаў адбываліся ў перыяд уступных экзаменаў у вышэйшыя навучальныя ўстановы ў Польшчы. Таму і многія польскія вучоныя, пазначаныя ў праграме, у Гродна не змаглі прыехаць. Аднак прадстаўлена было гданьскае, торуньскае і познаньскае асяроддзе гісторыкаў.

Уражанне ад канферэнцыі засталося даволі мешанае. Самая тэма здавалася выклікаць вялікае зацікаўленне, хаця рэфераты былі розныя. Не хапіла, напрыклад, сацыялагічных даследаванняў пра становішча гістарычнай свядомасці ў Беларусі. Дзіва бярэ, што ў тым жа Гродне, але і не толькі, засталося шмат помнікаў з часоў ВКЛ. Але неяк звычайны жыхар не прыдае вялікага значэння да асаблівага мінулага свайго горада. Неяк выбраліся мы паглядзець старыя традыцыйныя вулачкі. Гэта так закінутая частка горада, што нікому ў галаву не прыйшло перайменоўваць гэтыя вуліцы. Вось, напрыклад, па-руску напісаная назва вуліцы „Цегляная". Але ёсць і Віленская. Гэта ўсё ж такі не тое, што ў цэнтры: Сацыялістычная, Камуністычная, Дзяржынскага і помнік Леніна на цэнтральным пляцы. Каб зразумець веліч Гродна, трэба пазнаёміцца з яго гісторыяй. Я заўсёды з захапленнем слухаю Ігара Трусава — гісторыка, які дэталёва апавядае пра пасобныя будынкі і іх гісторыю. Аж марыцца такі агульнадаступны кніжны даведнік аб Гродне. Можа і іншы тады быў бы падыход да свае бацькаўшчыны маладога пакалення. А так гістарычная свядомасць беларусаў, здаецца, не існуе. Калі гістарычная памяць сягае да 1990 года, ці, напрыклад, да часоў расейскай імперыі ці міжваеннага перыяду, цяжка гаварыць пра тоеснасць нацыі, якой здаецца раз, што яна руская, другі раз — польская. А Беларусь? Яна існуе ў свядомасці толькі ад 27 ліпеня 1990 г., ну можа ад 1 студзеня 1919 г.

Для мяне цікавай часткай канферэнцыі былі разважанні наконт уніі ў Беларусі. Што тут не кажы, але была гэта свайго часу культурная з'ява ў Беларусі. Можна яе крытыкаваць, але нельга адкідаць фактаў, звязаных з яе ўвядзеннем і скасаваннем на беларускіх землях. А фактаў прыводзілася шмат. Ірына Лаўроўская з Брэста нават прапанавала аднаўленне царквы, у якой падпісвалася унія. Відаць, што гэтае пытанне, у 400-годдзе уніі ў Брэсце, цікавіць у Беларусі многіх гісторыкаў.

Сёння унія для многіх — новая з'ява, з царкоўнага пункту гледжання — вельмі шкодная. З гісторыі, аднак, яе не выкінеш, а каб ацэньваць, трэба дакладна пазнаць гэты феномен, які на працягу больш чым 200 гадоў запаланіў большасць жыхароў Беларусі.

І яшчэ адзін экскурс у гістарычную памяць. Карыстаючыся нагодай пабыўкі ў Гродне, з'ездзіла я ў родную вёску Сяргея Барана — пасла ў польскі Сейм у 1922—1927 гадах, Віцькі. Хаця па сённяшні дзень у вёсцы палова жыхароў з такім прозвішчам, ніхто ўжо такога не памятае.

**Лена Глагоўская**

**Да 100-годдзя з дня нараджэння беларускага паэта, публіцыста і выдаўца Уладыслава КАЗЛОЎШЧЫКА**

# Засяваў свае гоні

Некалькі гадоў збіраю па крупінцы звесткі пра жыццёвы і творчы шлях таленавітага беларускага літаратара з Беласточчыны (нарадзіўся ў вёсцы Залессе Сакольскага павета) Уладыслава Казлоўшчыка (1896—1943 г.г.). Вынікам пошукаў стаў першы мой матэрыял пра яго, які быў апублікаваны ў тыднёвіку „Ніва" 22 студзеня 1995 года. Сёння зноў хочацца нагадаць пра гэтага здольнага літаратара, які шчыра і натхнёна засяваў свае родныя гоні паэтычным, празаічным і публіцыстычным словам. Тым больш, што сёлета ў канцы чэрвеня Уладыславу Казлоўшчыку спаўняецца 100 гадоў з дня нараджэння. Сабрана ўжо і яго літаратурная спадчына, якая перададзена Беларускаму літаратурнаму аб'яднанню „Белавежа". Хочацца моцна спадзявацца на паважанага Яна Чыквіна, які ўсё ж зробіць усё магчымае і немагчымае, каб творы гэтага літаратара ў юбілейны для яго год, пабачылі свет пад адною вокладкай. Пакуль толькі так мы можам сёння ўшанаваць і захаваць памяць пра Уладыслава Казлоўшчыка.

Першыя яго творы з'явіліся ў друку ў 20-х гадах. Шмат пісаў на спартыўныя тэмы. У часопісе „Шлях моладзі" нават вёў рубрыку „Куток для спорту". На жаль, як спартыўны журналіст і публіцыст, у Беларусі да сённяшняга дня Ул. Казлоўшчык застаецца невядомым. Тым больш не даследавана і не сабрана і яго спартыўная публіцыстыка.

Наш зямляк быў яшчэ арыгінальным паэтам і празаікам. Ці не ён другі, пасля Якуба Коласа, у беларускай літаратуры напісаў вершаваны раман — адзін з жанраў паэтычнага эпасу? Відаць, так. Яго раман меў назву „Путы кахання" (1931 г.).

У сваіх творах Ул. Казлоўшчык заклікаў беларускі народ да змагання за незалежную Беларусь. Пісаў пра гэта ў канцы 20-х гадоў:

*Калі распутае Пагоню*
*Дух-рыцар слаўны і сьвяты*
*Й праскоча віхрам над табою*
*Й голасна крыкне: ўстаць, браты!*

Працягваў гэту тэму і ў 30-х гадах:

*Наперад і разам, працоўны народзе!*
*Трымаймася дружна ў вянку*
*абь'днаньня.*
*Наперад! Супольна. У ладзе і згодзе.*
*Шляхам змагання!*



*Галоўная рада Беларускай народнай самапомачы ў Менску ў 1942 годзе. Стаіць трэці злева Уладыслаў Казлоўшчык.*

А ў гады вайны смела выступаў на старонках „Беларускай газэты", якую сам рэдагаваў і тыраж якой даходзіў да 80 тысяч паасобнікаў. Тэма любові да Бацькаўшчыны, да яе мовы, да яе людзей, тэма незалежнасці Беларусі шырока адлюстраваны ў артыкулах Уладыслава Казлоўшчыка перыяду нямецкай акупацыі: „Беларус на сваёй варце" (1941 г.), „Хто ў Менску гаворыць па-расейску" (1941 г.), „Нацыянальнасьць і рэлігія" (1941 г.), „Спынім дзейнасьць ангельска-маскоўскіх агентаў" (1941 г.) і ў многіх іншых.

Уладыслаў Казлоўшчык пражыў толькі сорак сем гадоў. Ён ніколі не здраджваў свайму народу, роднай літаратуры і культуры. Няхай гэтых некалькі празаічных абразкоў зноў нагадаюць пра творчасць нашага земляка.

**Сяргей Чыгрын**

**Уладыслаў Казлоўшчык**

# Ня ў нас вясна

Вясна. Сонца. Жыцьцё. Радасьць...

Ня ў нас, браты.

Зіма вяковая марозіць нашыя душы. Страшная мяцеліца завявае нашыя палеткі, плюе людзям у вочы.

Людзі... запуханыя. Не адважываюцца выставіць галавы з хаты. Сядзяць. Выглядаюць пагоды. Чакаюць перамены.

А бура вые, плюе, рагоча. Мароз цісьне...

Чорныя хмары навісьлі над усёй Краінай.

А над запуханымі крывіцкімі хатамі ўецца ў змаганьні дух Беларускай Нацыі. Ён прабуе разагнаць хмары, борацца з мяцеліцай, б'ецца ў сэрцах прыгнечанага народу, сьвеціць надзеяй у ягонай душы.

— Сонца!

Вясны!

Жыцьця!

Радасьці! — загаласіў у роспачы беларускі народ.

— Ха, ха, ха! — зарагатала цемра:

Просяць?!.

Жабракі!..

Рабы!..

Умеюць толькі плакаць і прасіць!..

Засыпаць іх сьнегам!

Закаваць навекі лёдам няволі!..

Няма месца мляўкасьці цяпер на сьвеце! Засумаваў дух Беларускай Нацыі, убачыўшы ўбогасьць волі свайго народу, памкнуўся з большым імпэтам па ўсёй Беларускай Краіне. Парываў сэрцы, запаліваў у душах жыцьцёвую бадзёрасьць, дадаваў сілы волі, адвагі і ў канцы вуснамі працоўнага народу загаласіў:

— Далоў страхі!..

Выходзьма на родны прастор!..

Мы ж дзеці працоўнай сям'і — што нам мароз, мяцеліца, хмары?!

Аглядайма свае палеткі!

Расчышчайма дарогі!

Працай і змаганьнем разаб'ем лёды вяковае зімы!

Разгонім хмары!

Змусім сонца сьвяціць нам!

— Ого-го! — загудзеў сівер.

— Ві-і-дзі-іш ты і-іх! — засьвістала мяцеліца:

Ня просяць?!..

Ня плачуць?!..

Ня гнуцца?!..

Яны ўжо не жабракі...

Не рабы...

У іх ёсьць моц духа.

— Адступаць патроху — загадала зіма: вораг аказываецца ёсьць моцны. Прыдзецца зьмякчыць.

Але з боем!

У змаганьні!

Дабравольна нічога!

Такі ёсьць наш і ўсяго сьвету закон...

..........................................................

Вясна. Сонца. Жыцьцё. Радасьць.

Ня ў нас, браты.

У нас — змаганьне за вясну.

У нас — змаганьне за сонца.

У нас — праца для будучага жыцьця.

У нас — сум для будучай радасьці.

*1935 г.*

# Прачніся, беларусе!

Прачніся, беларусе!

Звалі з сябе вяковую, маной зашытую дзяругу.

Страсі стагодні пыл, што засьцілае вочы.

Падніміся!

Глянь на сваё, ліхазельлем парослае поле. Глянь і паслухай, як прагавіта дзяруцца суседзі, што карыстаюцца сном тваім, гаруць тваю зямліцу і засяваюць маной твае родныя гоні.

Паслухай!

Якім страхоцьцем адчуваецца рогат, сытых тваею зямліцай суседзяў...

Дзеці твае плачуць!

Плачуць над сваею нядоляй, песьцяць мазалямі сваю родную зямліцу і просяць, каб дала ім кусочак чорнага хлеба.

Яна — зямліца — сама ў нядолі. На яе пасягаюць прагавітыя рукі чужынцаў і засяваюць зярняты пагана-манлівай здрады. Дык устань, гаспадару!

Устань, браце!

Памажы працаваць тым, што прачнуліся, бо прагавітыя суседзі сьмяюцца, што нас мала на родных гонях, што мы не ўмеем, што не здольны гаспадарыць на сваёй зямліцы.

Прачніся, беларусе!

Звалі з сябе камень цямноты. Глянь зрокам вольных прадзедаў-волатаў, зрокам, пранікаючым у таямніцу руінаў, раскрываючым агіду стагодзьдзяў, загляні ў курганы, раскіданыя па ўсёй нашай зямліцы.

Глянь вокам арліным!

Вокам, што ня сплющчыцца ад манлівага бліску шляхоцка-панскае справядлівасьці.

Ідзі!

Гары, засявай потам аблітае поле. Працуй і сьпявай вольныя песьні.

Сьпявай!

Каб зашумелі рэхам свабоды беларускія непраходныя пушчы, каб усьцешыліся раскіданыя па курганох беларускае зямліцы прадзедаў косьці.

І засявай свае гоні!

Засявай зярном справядлівасьці, каб вырасла і заглушыла ману, каб пракарміла тваіх працоўных унукаў і дала ім сілу і беспрарыўную бадзёрасьць, каб яны ніколі не заснулі, а цягнулі зачатыя табою вольныя, працоўныя, адраджэнскія беларускія песьні.

*1933 г.*

# Шлях моладзі

З заблутанай бяздарожжы, прабіўшыся скрозь жыцьцёвыя віхуры, узышла беларуская моладзь на свой просты, народны шлях. Узышла, каб ісьці ўжо гэтым роўным шляхам аж да мэты, каб браць за сабою ўсіх, каму баліць сэрца, глядзеўшы на спутаную Пагоню, на згорнуты наш народны сьцяг, каму льюцца сьлёзы, гледзючы на гора нашай няшчаснай Маці-Краіны.

Дзеткі, ратуйце — кліча нас Маці-Старонка.Чыё сэрца не ўзварушыцца, чыя душа не адкліцкнецца на зоў і просьбы сваёй роднай маці?

Моладзь! Браты! Сёстры! Дружна, адважна ідзема гэтым простым народным беларускім шляхам, а дойдзем мы да мэты і здабудзем долю сваёй роднай Маці.

Хто зможа нам загарадзіць наш роўны радзімы шлях? Хто будзе мець сілу затрымаць бойкую, гаротную, сярмяжную беларускую моладзь? Хто дасьць лепшую ідэю, ад каханьня і ратаваньня сваёй роднай Маці?

Браты! Калі мы знайшлі ўжо просты народны шлях, дык пойдзем жа ім аж да мэты! Мы ня зблудзім, бо шлях гэты ёсьць просты і наш радзімы.

Не затрымае нас ніякая сіла, бо мы маем магутную ідэю, бо ў жылах нашых кіпіць беларуская кроў!

*1929 г.*

# Перабраліся

Сябра нашай рэдакцыі Сяргей Чыгрын, калі даведаўся, што мяняем адрас, спачувальным голасам сказаў: „Лепш тры разы згарэць, чым раз перабірацца". Сапраўды, некалькі тон кніжак, часопісаў, якія збіраліся звыш сарака гадоў, гамулкаўскія шафы, кожная з якіх важыць больш за сто кілаграмаў, не выклікалі аптымістычных настрояў нават сярод рэдакцыйнай моладзі. Шэсць гадзін шпацыру з пісьмовымі сталамі і шафамі па калідорах і сходах на Сураскай, а пасля яшчэ крышку руху на Замэнгафа і мы ўжо былі на новым месцы. Праўда, мае калегі, якія найбольш ахвярна працавалі, заявілі, што калі б яшчэ прыйшлося адзін раз перабірацца, тады просяць, каб дзень раней выкрасліць іх са спіску супрацоўнікаў „Нівы". Але ўсё гэта хваляванне вынікала з таго, што наш пераезд у новую сядзібу адарваў рэдактараў ад штодзённай журналісцкай працы. Пры нагодзе ад імя рэдакцыйнага калектыву дзякую старшыні Беларускага Саюза ў Рэчы Паспалітай Яўгену Вапу за дапамогу ў змаганні з цяжарам нашай мэблі.

Да наступнага пераезду, Сябры.

**Яўген Міранович**

**Наш новы ☎ 435–022**

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# Шчасце і гора

*(беларуская народная казка)*

Жылі ў адной вёсцы два браты. Адзін з іх быў вельмі багаты, другі — бедны. Пайшоў раз бедны прасіць у багатага каня поле араць, а багацей яму кажа:

— Ідзі вазьмі, толькі глядзі, не замуч каня занадта.

Пайшоў бедны брат. Толькі выйшаў за гумны, а там і коні ходзяць. Стаў забрыкваць бедны брат каня, аж бачыць, што нейкі чалавек да яго ідзе.

— Не руш, чалавеча, не тваё гэта дабро!

— Што ты за чалавек такі, што мне каня брата майго не даеш?

— Я — Шчасце твайго брата.

— А дзе ж маё Шчасце?

— Вунь там, пад кустом, — паказаў незнаёмы беднаму брату, — у чырвонай сарочцы ляжыць.

Бядняк узяў добры кол ды і пайшоў да куста. Падышоў бліжэй і бачыць, што там вялікі чалавек ляжыць. Бядняк, доўга не думаючы, трэснуў чалавека па баках калом. А той ускапіўся і пытае:

— Ой, не бі ты мяне, чалавеча, я не прывык зямлю араць! Але калі зоймешся гандлем, я буду табе памагаць.

Бядняк пакінуў каня ды і паплёўся дахаты. Узяў ката і пайшоў з ім на базар. А там адразу і купец найшоўся, і грошы немалыя за ката заплаціў.

Купіў бедны брат за гэтыя грошы дзве гускі і тыя з карысцю прадаў. Пазней купіў барана, прадаў рагатага, а за яго карову купіў. Так яму шанцавала, што на працягу тыдня вялікія грошы нажыў. Хутка ў горадзе хату сабе купіў ды і стаў перавозіцца. Забраў усё са старой хаты, аж чуе, што нехта плача.

— Хто там так плача?

— Я.

— Хто гэта „я”?

— Я — Гора тваё.

— А чаму ж ты плачаш?

— А што не бярэш мяне з сабой.

— Не плач, лезь у гэтую скрыначку, я і цябе перавязу ў горад.

Паверыла Гора і ўлезла ў скрыню. Мужык забіў яе цвікамі і закапаў пад кустом, а сам паехаў у горад. Там багацеем стаўся.

Прыехаў аднойчы да яго брат у госці і пытае:

— Як жа ты, браток, такім багацеем стаў?

Брат расказаў свайму госцю пра Гора і Шчасце.

— А Гора пад кустом закапаў.

— Дзе?

— На старым дварышчы.

Багаты і рады, што бядняк пра ўсё яму расказаў. Як толькі дахаты прыехаў, Гора пайшоў адкопваць.

— Ідзі зноў да майго брата!

— Не, — кажа Гора, — твой брат чалавек ліхі, біў мяне, а ты добры, мяне ад зямлі вызваліў. Я да цябе пайду.

Хацеў багацей закапаць тое Гора, але яно ў паветры растала і паляцела. Тады збяднеў прагны багацей. А даўнейшы бядняк вялікае багацце нажыў.

**Зорка**

*Цалінка Глагоўская пасябравала з дзедавым канём.*

## Вершы Віктара Шведа

### Гітара без струн

— Я аб гітары марыў, —
Сказаў Ясь весялун. —
Старэнькую гітару
Купіў ты мне без струн.

Азваўся раптам тата:
— Калі ўжо сапраўды
Навучышся іграць ты,
Струн купім шмат тады.

### Сапраўднае дзеясловаў

Настаўнік на ўроку пачаў пытаць:
— Прашу дзеяслоў „ісці” праспрагаць.
Узняўся за гэта вучань Фадзей:
— Я іду, ты ідзеш, ён ідзе...

— Хутчэй, хутчэй, не марудзь!
— Мы бяжым, вы бяжыце, яны бягуць.
І з Федзі страшэнна якраз
Смяяўся доўга ўвесь клас.

### Няма ў ножках сілы

Паехала ў горад
З татулём Веранiка.
Затамілася скора
Ў натоўпе вялікім.

— Паднясі мяне трошкі,
Мой ты татка мілы,
Бо няма ў маіх ножках
Нічагутка сілы.

# Загадкі

Ён у самы санцапёк
Падстаўляе сонцу бок.
Колерам зеленаваты,
У цяльняшцы паласатай.

* * *

Для Святланы і для Лёдзі
Маці рве на агародзе
Ўсім знаёмую расліну —
У ёй многа карацiну.
— Наце, — кажа, — ешце, дочкі,
Будуць добра бачыць вочкі.

* * *

Стаяць каля сцежкі Юлькі,
На іх белыя кашулькі.
Сэрцы іх залатыя.
Адгадайце, хто такія.

**Уладзімір Мацвеенка**

# Крыжаванка № 33

*(Даслала Кася ЛЕАНЮК з Гайнаўкі)*

празаічны твор
у яго моцная дзюба
... куточак у „Зорцы”
алейная расліна
птушка — сімвал міра
магчымасць, шанс
дзіця каровы
Гайнаўка або Беласток
каралева польскіх рэк
з паштовай маркай
мерка зямлі
у ім ніткі
галоўны апавядання
у роце
раённыя беларускай песні

Фальклорныя цікавінкі

# Радзіны

Нашы продкі ўрачыста сустракалі нованароджанае дзіця. Нараджэнне дзіцяці было вялікім святам у сям'і. І асабліва тады, калі ў сям'і радзіўся сын — памочнік бацьку і будучы гаспадар. Дзяўчат сустракалі з меншым энтузіязмам. Дзяўчынка ў сям'і абазначала дадатковы клопат пра пасаг.

З нагоды нараджэння дзіцяці спраўлялі радзіны, хрэсьбіны. На радзінах найбольш ганаровая роля адводзілася бабцы-павітушцы. Яе абдорвалі гасцінцамі, славілі словамі і песнямі, урачыста праводзілі дамоў. Бабка прымала ў парадзіхі роды і купала дзіця. Па прыкметах у час купання магла нават прадказаць і лёс малога. Яна лечыла парадзіху і давала парады маладой маці. Бабкай звычайна была пажылая і вопытная жанчына.

Праз некалькі дзён пасля родаў да парадзіхі ішлі ў адведкі. Хадзілі толькі жанчыны, аднасяльчанкі або сваячкі. З гэтай нагоды пяклі і бралі з сабой аладкі, яечню, пірагі і іншыя смакоцці.

Пасля двух тыдняў ад нараджэння дзіцяці ладзілі радзіны. Яны былі ўпрыгожаныя абрадамі і песнямі. У хрысціянскія часы радзіны назвалі хрэсьбінамі. Асноўнай абрадавай стравай на гэтым мерапрыемстве была *бабіна каша*. Гатавала яе згаданая ўжо бабка-павітушка. Кашу пасля гатавання ўпрыгожвалі галінкамі і кветкамі. Бабка казала, што прадае гаршчок з кашай. Пасля вялікага „торгу” кашу „выкупляў” кум. Ён разбіваў гліняны гаршчок, а на яго черапках бабка частавала кожнага госця кашай. Дарэчы, гаршчок падбіраўся трэснуты. На Беласточчыне частаванне кашай спалучалася са зборам грошай для дзіцяці. Бабцы таксама дорылі ручнік або тканіну.

На радзінах спявалі абрадавыя песні. У час мерапрыемства бацькі і хросныя займаліся магічнымі практыкамі. Усё гэта рабілася дзеля шчаслівай будучыні дзіцяці.

**А. А.**

## Легенды Беластоцкай зямлі

# Грошы — гэта смерць

Здарылася тое даўным-даўно, як у войску служылі аж дваццаць пяць гадоў. Возьмуць, бывала, у рэкруты юнака маладзенькага, якому толькі-толькі вус высыпаецца, а калі пашчасціць яму жывым з войска выйсці, дык вяртаўся ён дамоў сівым знясіленым чалавекам. Да таго за гэтую службу каралю ці цару салдат не атрымліваў ні граша — жабруючы ў родную мясціну цягнуўся.

Ішлі гэтак, адслужыўшы свой тэрмін, трох салдатаў. Як рушылі са свайго гарнізона пасля Калядаў дык і Вялікдзень у дарозе адсвяткавалі. Ужо і вясна навокал бухала: птаства ад спеваў ажно захліствалася, нівы зеленелі, людзі ўжо ў поле выйшлі.

Вось пры самым гасцінцы селянін араў. Яны яму: „Памажы, Божа!" далі. Ён ім у адказ: „Дзякую за добрае слова!" ды ўзяў спыніў валы і пачаў з зямлі нешта выкалупваць. Салдаты зацікавіліся: „Што ты там, добры чалавеча, выараў?" — пытаюцца. А той, падняўшы з баразны змуршэлы гаршчок, кажа: „Глянь-це, салдацікі-брацікі, гэта ж з яго, няйнакш, золата сыплецца?!" Падбеглі салдаты да ратая, зірнулі: праўда ж — з посуду залатыя манеты дажджом ліюцца! „Ну і шчасце табе прываліла!.." — зайздросна ўсклікнулі ваяры. Селянін жа паглядзеў на той скарб, выпусціў яго з рук у баразну, пачухаў патыліцу і прамовіў: „Бярыце, салдацікі, гэтае золата. Вы, нябось, без граша пры душы: прыдасца яно вам на закладку новага жыцця". Тыя аж сумеліся і, нічога не кажучы, кінуліся збіраць ды дзяліць той скарб паміж сабою.

Калі ўжо пазбіралі ўвесь, да апошняй манеты, мацнуліся па поўных кішэнях ды аж зарагаталі ад шчасця. Зірнулі на селяніна, а той стаіць ды з аднае босае нагі на другую пераступае і сумнымі вачыма на іх пaглядае. Адзін са шчаслівых ваяроў і пытаецца яго: „А чаму ж ты адмовіўся ад такога багацця?! Гэта ж, маючы такі скарб, ты, як пан, жыў бы сабе прыпяваючы!.." Селянін жа яму на тое: „Не хачу я скарбу, бо грошы — гэта смерць". Падзіваваліся салдаты на ягоныя словы, але на радасцях не задумваліся над імі. Падзякавалі яны за скарб і не тое, што пайшлі, але проста на крылах дадому паляцелі.

Ідуць яны, шчаслівыя і вясёлыя, то саланаваты жарцік згадаюць і рагатнуць сабе сакавіта, то песеньку звонкую прапяюць. Гэтак і ў лес увайшлі, а там — разыходныя дарогі. Аднаму з ваяроў трэба было адлучыцца ад грамады і пайсці ў другі бок. Ну што ж, развіталіся яны, расцалаваліся ды пайшлі сваімі шляхамі.

Ішлі тыя ўдвох, рознымі роздумамі абменьваліся пра былое і будучае жыццё-быццё. Ажно адзін з іх і змеркаваў: „Але і прыдаліся б нам тыя чырвонцы, што ён панёс". „Яшчэ і як прыдаліся б!" — пацвердзіў другі. „Ну то давай дагонім яго, заб'ем і грошы нашы будуць", — заахвоціў першы.

Доўга не думаючы, вярнуліся яны, дагналі свайго сябра ды накінуліся на яго. Той, сцяміўшы іхнія намеры, пачаў прасіцца: „Браточкі, родненькія, бярыце вы тыя грошы, толькі жывым мяне пусціце. Мяне ж у стольких бітвах варожыя кулі пашчадзілі, змілуйцеся і вы. Я нікому век пра тое не скажу..." — „Няма табе літасці, — раз'ярыўся першы ваяка. — Ты добра ведаеш, што за разбой на дарозе нам абодвум шыбеніцы не пазбегчы. Памірай!"

Забілі яны свайго сябра, труп закапалі ў лесе, магілу з зямлёй зраўнялі ды для непазнакі галлём закідалі, падзяліліся грашмі і рушылі сваёй дарогаю.

Ішлі яны доўга ці коратка. Не жартавалі і не спявалі — цяжкі камень учыненага злачынства ляжаў ім на сэрцы. Гэтак дайшлі яны да скрыжавання, дзе іхнія дарогі разыходзіліся. Затрымаліся яны, прысягнулі, што пра забойства сябра нікому ніколі нічога не скажуць, ды пайшлі кожны ў свой бок.

Прайшоўшы кавалак, адзін з іх падумаў: „Я ўсё ж дужэйшы і звітнейшы за яго. Заб'ю, грошы забяру: увесь скарб будзе мой і сведкаў пра злачынства ніякіх не застанецца".

Як падумаў, так і зрабіў.

***(закончэнне у наступным нумары)***



*Мал. Ані Саеўскай, VII кл. ПШ у Кленіках.*

# Падарожжы сяброў „Зоркі"

Мінаюць канікулы. Многія дзеткі яшчэ адпачываюць або весела гуляюць. Іншыя, якім прыйшлося дапамагаць бацькам, зарабляць грошы, засумавалі па школе.

Ці варта падарожнічаць, пабываць у новым месцы? Сапраўды, варта!

Сябры „Зоркі" — Аня і Крыстафор з Беластока расказвалі пра сваё падарожжа ў Прагу. Паехалі яны туды са сваімі бацькамі і сваякамі. Ужо пасля перасячэння польскай граніцы Аня не магла адарваць вачэй ад надпісаў на экзатычнай для яе мове.

— Калі чалавек бачыць іншых людзей, пачынае думаць і пра сябе. І не думаеш пра Варшаву, Кракаў ці іншыя польскія гарады, толькі пра свой Беласток, пра вёску, дзе жывуць бабулі, пра сяброў, з якімі ходзіш на заняткі рэлігіі.

Крыстафор прыслухоўваўся да гукаў чэшскай мовы. Адразу заўважыў, што многія словы вельмі ж напамінаюць яму беларускія. Тады ад сваіх бацькоў даведаўся пра славян, пра падабенствы і розніцы паміж вельмі блізкімі народамі. Даведаўся ён таксама, што існуюць і заходнія, і ўсходнія, і паўднёвыя славяне. Яны ўсе гавораць на падобных мовах. Таксама, як і заходнія ці паўднёвыя славяне, расейцы, украінцы і беларусы маюць таксама многа супольнага. Яшчэ і сёння некаторыя паўтараюць, што беларусы ці украінцы — гэта „рускія". Крыстафор і Аня часта чулі, як беластоцкія сябры так іх называлі. Дзеці не разумелі гэтага зусім і таму многа думалі пра пачутых „рускіх".

— То чаму славакі, чэхі, палякі не „рускія"? — дапытваўся Крыстафор, маючы на ўвазе супольнае славянскае паходжанне, падобную мову. Тады бацькі яму растлумачылі, што слова „рускі" калісьці абазначала „праваслаўны". У Беластоку, ці ў нашых вёсках, людзі паўтараюць, што рэлігія — гэта нацыянальнасць. Гэтыя людзі не ведаюць, што ў XX ст. паўсталі такія дзяржавы, як Беларусь, Украіна, Чэхія. Да XX ст. Чэхія была зняволенай краінай. Але на працягу нашага векуператварылася ў самастойную моцную дзяржаву. Такая была б і Беларусь, калі б мела спрыяльныя ўмовы для свайго нацыянальнага развіцця.

Крыстафор і Аня хутка пойдуць у сярэднія школы. Вельмі іх цікавяць родныя карані.

— У час наступных канікул мы паедзем у Беларусь, — заявілі дзеткі.

Нашы сябры ўспомнілі нават словы беларускай песні:

*Каб любіць Беларусь нашу мілую,*
*Трэба ў розных краях пабываць,*
*Разумею тады, чаму з выраю,*
*Жураўлі на Палессе ляцяць.*

**Зорка**



*Звяз беларускай моладзі наладзіў чарговы рэйд па Беласточчыне.*



*Апрача вандравання ўсе добра гулялі.*

# „Дзённікі" Максіма Танка

Яны трапілі да мяне не сказаць, каб выпадкова ці неспадзеўкі. Цягам апошніх, надзвычайна цяжкіх і пакутных для паэта гадоў, займаючыся даследзінамі яго творчага даробку ў літаратуры былой Заходняй Беларусі, пашчасціла так ці інакш кантактаваць, страчацца з ім, месць размовы адносна многіх балючых праблем нашай мінуўшчыны і сённяшняга дня. Тады ж з ласкавай згоды гаспадара была магчымасць знаёміцца з некаторымі матэрыяламі і дакументамі яго багатага сямейнага архіва — рэдкімі на цяпер публікацыямі і фотаздымкамі заходнебеларускага перыяду (што мяне асабліва цікавіла), ненадрукаванымі і па сёння, поўнымі гаркоты, тугі і болю, а таксама шчырай пашаны і замілавання да асобы народнага паэта лістамі Ларысы Геніюш і іншых. Тым жа часам упершыню давялося неспадзявана ўвідавочыць, патрымаць у руках і нават пагартаць колькі невялікіх сшыткаў з яго дзённікавымі нататкамі, якія ён вёў, як вывілася пазней, пачынаючы з далёкага 1941 года.

І вось перада мною 860 старонак машынапісу, падрыхтаванага, а таксама спакаванага самім Максімам Танкам перад тым, як ажалобіць нас мінулагоднім жніўнем назаўсёдным адыходам у вечніну. Паэт мог надрукаваць ці пачаць друкаваць іх яшчэ пры жыцці (каштоўнасць запісаў — надзвычайная), але ў адрозненне ад некаторых сваіх калег па пяру палічыў этычным, каб з дзённікавымі нататкамі шырокі чытач пазнаёміўся па яго смерці. І гэта пры ўсім тым, што няма ў іх аніякай інтымнай галізны, гэтаксама як і акцэнтацыі пэўных момантаў узаемадачыненняў пісьменнікаў, у тым ліку і тых, што яшчэ жывуць сярод нас, і г.д.

Калі знаёмішся з дзённікамі М. Танка, адразу кідаецца ў вочы іх традыцыйнасць для паэта, характэрная „танкаўскасць". Яны — непасрэдны працяг вядомых „Лісткоў календара", нататак, якія вёў малады творца ва ўмовах заходнебеларускага падполля 30-х гадоў. Чытаючы тымчасовыя і дадзеныя запісы, складваецца ўражанне, што перад табою своеасаблівы, незвычайна багаты на падзеі і факты летапіс ягоных жыцця і творчых пошукаў. У ім не стае занатовак хіба за адзін 1940 год, год, калі М. Танк адольваў няпростую навуку сужыцця ў новых грамадска-палітычных умовах і варунках, непасрэдна сутыкнуўшыся з тым, чаму раней аніяк не даваў веры. Паэт вёў іх нават тады, калі лютаваў агонь вайны, у небяспечныя для такога занятку паслейшыя часіны, калі даверлівае ўвасабленне патаемных думак і пачуццяў на паперы, фіксацыя аб'ектна-суб'ектных адносін маглі закончыцца вядомымі драматычнымі, а то і трагічнымі паследкамі.

„Дзённікі" М. Танка каштоўныя тым, што падкрэслена аб'ектывізавана люструюць час і падзеі нядаўняга мінулага, 40-х — сярэдзіны 90-х гадоў, поўняцца складаней амальгамай душэўных перажыццяў, грамадзянскіх клопатаў і турбот выдатнага нацыянальнага паэта. У іх — эмпірычныя веды і элементы апрыёрнага ўспрыняцця рэчаіснасці: згадкі пра далёкія малечыя гады, багавейнасць у адносінах да маці і бацькі, шчырая павага да калег па творчай працы, уражанні ад наведвання і ўвідавочання чужаземшчыны і г.д. У маністычным выяўленні складаных жыццёвых працэсаў аўтара не папракнеш...

Чытаеш гэтыя старонкі і бачыш, аніколі паэт не схібіў, нідзе не даў падстаў усумніцца ў сваіх высокіх чалавечых, грамадзянска-патрыятычных і прафесійных якасцях. Працуючы на пасадах галоўнага рэдактара часопіса „Полымя", старшыні Саюза пісьменнікаў і старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі, ён, натуральна, знаходзіўся ў вядомым ідэалагемным полі, вымушаны быў дзеіць з аглядкай і папраўкай на тагачасныя кампартыйныя цэнтры мудрасці. Але ў той жа час паэт бачыў і выяўляў хібы і заганы ў рабоце чыноўніцка-бюракратычнага апарату, з яе нязменнымі атрыбутамі — бясконцымі нарадамі і пасяджэннямі, кантролем і забаронамі, знаходзіў у сябе мужнасці не згаджацца, перакорыць у вырашэнні шматлікіх прынцыповых пытанняў. Чаго варты, прыкладам, яго перадваенныя пасобіны Наталлі Арсенневай, сяброўскія ўзаемаадносіны з Ларысай Геніюш, ліставанне з Пятром Бітэлем, дапамога Паўліне Мядзёлцы, заступніцтва ў вядомай эпапеі за маладых Алеся Разанава і Віктара Яраца... Як бы там ні было, ён заўсёды адчуваў над сабою ветразі беларускасці, востра ўсведамляў праблемы роднакультур'я і роднамоўя, стаўку рабіў на дабро і людскаванне.

Прапаную ўвазе чытачоў некаторыя фрагменты „Дзённікаў" Максіма Танка, якія ўяўляюць асаблівую цікавасць. Цалкам матэрыял будзе апублікаваны ў часопісе „Полымя".

**Мікола Мікуліч,**
**кандыдат філалагічных навук, загадчык Кафедры беларускай літаратуры Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы**

**Максім Танк**

# Дзённікі

***(фрагменты)***

## 1978

**1.I.** Не ведаю з чаго пачаць навагоднюю хроніку. Была непрыемная гутарка з А. Вярцінскім: не ўспомніў яго ў сваім артыкуле ў „Известиях". Божа, колькі раз не ўспаміналі маё прозвішча і нікому я не дурыў галавы.

Газеты прынеслі звестку аб смерці Ч. Чапліна, які ў сваёй біяграфіі пісаў: „Размнажэнне — галоўнае заняцце прыроды". Трэба сказаць, ён гэтаму „патэнцыялу сэксу" да канца свайго жыцця быў верны.

Я ад многіх чуў аб харастве прыроды. І, цікава, што аб гэтым менш за ўсё любяць гаварыць людзі, якія маюць непасрэдную сувязь з ёю.

**5.I.** Не ведаю, як перакладаюць з японскага ці кітайскага, калі там вельмі складаная вобразнасць і зусім іншае мысленне. Чытаў недзе, што, напрыклад, сказ: „Я прайшоў па вуліцы тваіх клапот" азначае: „Я думаў пра вас", а: „Я ўдарыў палачкай гневу па вуху тваёй увагі" перакладаецца: „Я хацеў звярнуць на сябе ўвагу".

**8.I.** Прыйшла мода на Бекета, як калісьці на Кафку, Сартра, Іанеска, Мілера...

Не ведаю, як каму, а мне ўжо надакучылі розныя модныя плыні і „новыя хвалі" ў літаратуры.

А на свеце — неспакой. Ідзе няспыннае нарошчванне ўзбраення. Няўжо спраўдзяцца прадказанні Ніцшэ, што наступны век будзе векам касмічных войн?

Намячаецца сустрэча з генеральным консулам Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі. Гутарка будзе аб наладжванні кантактаў паміж нашымі творчымі саюзамі. Відаць, многім з нас цяжка палюбіць мову, на якой у гады вайны толькі і чулі прыгаворы смерці. Учора заходзіла да нас суседка, паказвала Любашы сляды на руках, якія засталіся ад клыкоў нямецкіх аўчарак.

**9.I.** Ніхто ў нас не клапоціцца, што пад новыя кварталы гарадоў і навабудоўляў адводзяцца велізарныя абшары зямлі, якой мы не ўмеем даражыць і быццам яна нічога не каштуе, што пагражае глабальнай катастрофай. Усё працягваем перараблядь прыроду, забываючы, што дзень перамогі над ёю будзе днём канца жыцця ўсяго жывога.

Прачытаў выказванне аднаго вучонага, што мы ў сусвеце — самотныя. Аж сумна стала на сэрцы.

Цікава, што сучасная літаратура перастала так захапляцца поступам тэхнічнага развіцця, як захапляліся ў свой час футурысты і іншыя авангардысты, пісаўшыя на сваіх сцягах тры „М" (месца, машына, маса).

У нас прафесія пісьменніка ўсё яшчэ авеяна рамантыкай.

Калісьці ўсе праступкі тлумачылі матэрыяльным, сацыяльным становішчам, а зараз пераканаліся, што не ўсё можна вытлумачыць сакраментальнай формулай: „Быт акрэслівае свядомасць".

Можна кружыць па свеце і яго не заўважаць, і можна, як Кант, пражыць на адным месцы і змусіць свет кружыцца навокал сябе. Усё залежыць ад таленту, ад кругагляду, характару чалавека.

Пра Андрэаса Папандрэу гаварыў яго бацька, што ён увасабляе чатыры дзеянні ў матэматыцы: дадаў да яго асабістых клопатаў, адняў шмат сяброў, памножыў колькасць непрыяцеляў і, нарэшце, падзяліў яго партыю.

**11.I.** Трэба ехаць у Віцебск, а 25-га — у Цюмень на нараду „Новабудоўлі камунізму і літаратура". Даканаюць мяне гэтыя паездкі. І не бачу ніякага ратунку. Званілі з Масквы, каб падабралі „аўтарытэтную дэлегацыю". Але як яе падбярэш, калі ніхто з сакратароў Саюза пісьменнікаў не хоча ехаць. Мо ўдасца ўгаварыць Лецку Яўгена, які апошнімі часамі ў „Дружбе народаў" надрукаваў сваю цікавую аповесць. Ды трэба падшукаць да паездкі ў Цюмень нейкую цяплейшую вопратку і абутак. Бяда — няма калі пісаць. А для мяне не пісаць — тое самае, што не дыхаць.

Чытаю байкі. Ці не адыходзіць у мінулае гэты калісьці папулярны ў народзе жанр? Уваскрасіць яго можа толькі карэнная перабудова — і стылёвая, і тэматычная.

Часта наракаем на ўскладненасць некаторых твораў. Відаць, яно ідзе ад нашых устарэлых уяўленняў, і літаратурных канонаў, з-пад уплыву якіх не так лёгка вызваліцца, хоць навука даўно ўжо карыстаецца абстрактным мысленнем.

***(працяг будзе)***

# Новыя вершы

**Барыс Руско**

### Запрашэнне да дыялогу

**1**

Я не згаджаюся на ноч
без світання,
на вокны занавешаны,
на слова апошняе,
і што дарога недзе кончыцца,
і рукі назаўсёды апусцяцца,
і нехта прачытае: „Памёр".
Дык у белым полымі
існавання
нічога не згарае,
толькі ўваходзіць вышэй,
і піша старонку наступную,
і ставіць пытанні,
і дае адказы,
і крок за крокам
падыходзіць да Праўды.

**2**

Світанне адкрывае павекі,
а дрэва шуміць,
а трава зялёная,
а матыль побач,
і рака бяссонная.
Колькі ў крыхах прыроды
непрамінання
і творчых намераў,
і гармоніі,
а дрэва ссе грудзі зямлі,
а матыль у скоках
непераможны,
а ў жмені ракі
трывогі колькі,
аж моўкне Голас.

**3**

Чалавек збірае крошкі
са стала зямлі,
а на галаве капялюш саламяны,
і нешта шукае,
чаго шукаць не павінен,
і нешта робіць,
чаго рабіць не можна,
а лес высечаны,
а рака мёртвая,
а прага вялікая,
а розум няпэўны,
і думае,
што ён суддзя
і выканаўца волі Госпада.

**4**

У маршы
ўзбоч дарогі
непатрэбны груз,
усё, што памылковае
і няпэўнае,
і пешаход някемлівы,
якому не пад сілу гола праўда:
ёсць лепшыя абрынцы лёсу —
пераадольваюць бар'еры
і сеюць зерне бездакорнае.
Дык і абочына
не ў адпачынку.

**5**

Ні формаў закончаных,
ні спіраляў адсечаных,
ні крылаў звязаных
няма,
бо каб былі,
жыццё памерла б.
Канец бывае толькі з выгляду,
такі падман, ілюзія,
што няма таго,
што было...
У віры перамен
заўсёдны дыялог
з самім сабою.

# Выезд да блізкіх

Белавежская пушча канчаецца для нас на калючым дроце і заараназ паласе дзяржаўнай мяжы. За імі, як бышцам, пачынаецца другая Белавежская пушча. Што гэта адзін лясны масіў, сведчаць не толькі такія самыя фауна і флора, але і навакольныя людзі. І тут, і там жыве той самы народ, канфесійна перамешаны — праваслаўна-каталіцкі. Гучыць тая самая мова палескаа „ліцьвінскага” памежжа, з большай або меншай прымессю тут польскай, а там рускай. Доказам адзінства лёсу насельніцтва Белавежскай пушчы з'яўляюцца супольныя магілы, якімі ўсеяны ўвесь лес.

Ва ўрочышчы Пераро ля Белага Ляска — адна з такіх лясных магілаў. 1 жніўня 1941 года немцы расстралялі там, у старой жвіроўні, 43 асобы — з Белавежы і ваколіцы. Цяпер гэтае месца ў Рэспубліцы Беларусь. Жыхары польскай Белавежы ў гадавіну трагедыі ладзяць туды пілігрымку. Сёлета каля 150 чалавек, на чале з гмінным кіраўніцтвам, мяжу ў Грудках перайшлі ў нядзелю 4 жніўня. На граніцы з кветкамі чакалі ўлады Пружанскага раёна.



Вядучыя мітынг чыталі антываенныя вершы.



Салют.

Аўтобусы завезлі ўсіх да манументальнага бетоннага мемарыяльнага комплексу, дзе прайшоў жалобны мітынг.

Помнік у сённяшнім выглядзе пастаўлены быў пяць гадоў таму. Над прозвішчамі памардаваных — праваслаўны крыж. Над магілаю памаліўся бацюшка і царкоўны хор адспяваў „Вечную памяць”. Астатняя частка мітынгу была вельмі пампезная: іграў духавы аркестр, салдаты некалькі разоў выстралілі на салют, прамаўлялі старшыня Пружанскага раёна і войт Белавежы, вядучыя ўрачыстасць па-дыктарску чыталі антываенныя вершы.

Пасля малітвы, ускладання кветак і афіцыйнай часткі там жа, на паляне, адбылося нешта накшталт пікніка. Прыехала туды шмат мясцовага народу. Віталіся сем'і, знаёмыя, сябры з абодвух бакоў мяжы. У ларках можна было купіць прадукты і некаторыя прамысловыя тавары на падарунак.

Пасля частка прыезджых падалася ў Пружаны, астатнія раз'ехаліся па навакольных вёсках у госці, каб увечары зноў з'ехацца і групай вярнуцца дадому. Такім чынам людзі ўшанавалі памяць нявінных ахвяр, а з другога боку нацешыліся сустрэчай з жывымі. Наступны раз мяжу ў Белавежскай пушчы адкрыюць праз год.

**Мікола Ваўранюк**

*Фота аўтара*

**Васіль Сакоўскі**

# З мінулага маёй сям'і, вёскі і мясцовасці

***(працяг; пачатак у 18 н-ры)***

Забягаючы далёка наперад, пазнаёмлю вас яшчэ з адным маім аднавяскоўцам. Быў ён ужо старэйшым чалавекам і меў арыгінальную вясковую мянушку.

Колішнія старэйшыя людзі падзяляліся, па-мойму, на дзве групы. Адным з іх характэрныя былі такія асабістыя прыкметы, як душэўная раўнавага і спакой, гатоўнасць кожнаму дарадзіць і дапамагчы, уменне радавацца нават дробяззю і не заломвацца ў вялікай бядзе. Ад іх проста ззяла лагоднасць, сціпласць, дабрыня, спакой, пакорнасць выпаўшаму ім лёсу і набожнасць. Яны былі добра падрыхтаваны да жыцця і смерці: умелі радавацца жыццём і не ўпадалі ў адчай у абліччы смерці. Усе зменлівасці лёсу прымалі спакойна, нармальна, без панікі — з годнасцю, адным словам. Можна сказаць — яны былі носьбітамі сапраўдных хрысціянскіх вартасцей. Маё пакаленне, мне здаецца, так ужо не ўмее.

Другія ж наадварот, са ўсіх і ўсяго былі незадаволеныя, заўсёды злыя, бурклівыя. Яны рабілі ўражанне, што гэты белы свет яшчэ нейк трымаецца толькі таму, што яны яшчэ трымаюцца. А калі ўжо іх не стане, то і гэты свет пропадам прападзе.

Гэты старэйшы чалавек з арыгінальнаю мянушкай належаў да першай групы. А ўжо мянушка яго так прыліпла і пасавала да яго, што толькі так завочна і называлі яго. Пра гэта ён ведаў і не крыўдзіўся на людзей.

Расказвалі мне, што далёка перад сваёй смерцю, будучы яшчэ здаровым і жвавым старычынай, ён сам сабе зрабіў труну. Дабротную, дубовую і паставіў яе на гары ў хаце. Там яе наведваў часценька, адкрываў, лягаў у ёй. Нацешыўшыся ўволю, задаволены злазіў з гары і спакойненька далей займаўся сваімі зямнымі справамі. Скажыце, хто з нас, нібы свядомых і адукаваных людзей, адважыўся б на такое? Хутчэй бы ад страху памёр, як жыць разам і ў дружбе са сваёй дамавінай...

Рэч аднак не ў ім, а ў тым, што яго бацька таксама займеў частку нашага скарбу, і не малую. Хаця і яму ў гады ліхалецця жылося нялёгка, але са сваім скарбам ён не пароў гарачкі і не прадаў яго, як многія іншыя сяляне. Добранька схаваў яго ад зладзеяў і ўласных сямейнікаў і там трымаў аж да сваёй смерці. Уміраючы, вельмі намагаўся штосьці сказаць, але перад самай смерцю раптоўна страціў дар мовы. Так і памёр нічога не сказаўшы. Усе былі перакананы, што ён хацеў сказаць, дзе схаванае золата. Відаць, так яно і было.

Хутка пасля смерці бацькі прысніўся сыну сон, у якім пакойны бацька сказаў яму, што золата закапанае насупраць старога слупа. Паняцце „насупраць” аднак надта ж неканкрэтнае і тым самым арыенцір для пошукаў слабенькі. Тым больш, што старых слупаў на іх панадворку было некалькі. І, падобна, золата так і не знайшлі. Шкада.

Калі хтосьці калісьці выпадкова і знойдзе яго, напэўна будзе доўга чухацца па лысіне і здагадвацца, як яно там апынулася.

Канчаючы пра скарб, трэба сказаць, што многія мае аднасяльчане верaць дасюль, што яшчэ не ўвесь наш скарб знойдзены. Я таксама веру ў гэта. У гэтым месцы час ад часу знаходзілі і знаходзяць дзіўныя рэчы, як напрыклад, залатую палачку ці іншыя прадметы. А ці ўсе прызналіся, што там знайшлі?

Здараліся там і іншыя загадкавыя прыкметы. Расказваў мне мой тата, што аднойчы летнім вечарам вёў ён з пасавога сваіх коней, едучы вярхом на адным з іх. Было ўжо цемнавата. Пад'язджаючы да гэтага месца, убачыў, што з зямлі падняўся клуб агню і павольна нясецца ў напрамку рэчкі. Адразу падумаў, што хтосьці паліў там вогнішча і пераносіць яго бліжэй рэчкі або нясе тушыць у рэчцы. Калі пад'ехаў яшчэ бліжэй, са здзіўленнем убачыў, што ніхто яго там не нясе, агонь сам павольна нясецца. Хоць і не з пужлівых быў мой тата, але валасы самі паднялі шапку на яго галаве. Чамусьці першай, маланкава ўзніклай думкай у яго галаве, была тады: „Дзе жарабя?” Ён азірнуўся назад і паклікаў яго. Калі зноў зірнуў наперад, агонь прапаў, як бы там яго і не бывала. Устрывожыла гэта моцна майго тату, ён не мог сабе даравацць, што азірнуўся назад і не дагледзіў, што сталася з агнём. І хоць цвёрда не верыў ён у ніякія звышнатуральныя з'явы, але часта потым вяртаўся да гэтага дзіўнага здарэння. Мучыла яго пытанне: „Што б гэта магло значыць?!”

Аб падобных з'явах чуў я і ад іншых людзей, і з іншых месц. А тлумачэнні былі такія, што агонь выходзіць з тых месц, дзе захавана нейкая тайна і, канешне ж, скарб. І Гасподзь яго ведае, верыць гэтаму ці не верыць? А калі ўжо верыць, то ці гэта Боская з'ява, ці чортава штучка?..

Аб паходжанні нашага скарбу ёсць розныя версіі, але, на жаль, гэта толькі версіі. Падкіну яшчэ адну і я: а можа гэта частка яшчэ яцвяжскага скарбу? Жылі ж яны тут перад намі, і, падобна, мелі немалы скаб. Яцвягі загінулі, але скарб іх дзесьці астаўся. Аб ім часценька ўспамінае наша прэса, але на след яго яшчэ дасюль, падобна, ніхто не натрапіў. Дык чаму ж бы яму не быць захаваным у вёсцы Пілпкі?..

Выкопвалі ў нас не толькі скарбы, але часцей за ўсё людскія косці, многа касцей. Адны косці — паводле тлумачэння вясковых старажылаў родам яшчэ з царскіх часоў — мелі належаць да нашых продкаў, якія масава мерлі ў час нейкай заразы і былі пахаваны тут на месцы ў супольных капцах-магілах, а другія — да шведскіх салдат, якія, падобна, калісьці загінулі тут. Так ім іх дзеды расказвалі, але калі канкрэтна шведскія салдаты загінулі, інфарматары не ведалі. Косці нібыта шведскіх ваякаў былі проста надзіва вялікія — кожная косць у мой рост, канешне, тады яшчэ малога хлопца. Пры гэтым інфарматары абавязкова дадавалі: „Даў тут рускі цар шведам па срацы”, або: „Добра скраіў тут цар шведам майтачкі”. Сведчыла гэта аб тым, што тутэйшыя нашы людзі былі лаяльнымі царскімі падданымі. Іх цешыла, што гэта рускі цар „даў па срацы” ці „скраіў шведам майтачкі”, а не шведы далі па гэтай штуцы ці „скраілі майтачкі цару”.

***(працяг будзе)***

Адгалоскі

# Nie wszczynać waśni

Bardzo przepraszam, że piszę po polsku. W języku białoruskim pisać nie umiem, chociaż czytam doskonale. Byłam i nadal jestem miłośniczką Waszego pisma. Ciekawiły mnie wspomnienia z międzywojennego okresu, interesowały artykuły pana Janowicza. Ostatnio przeżywam jakiś niezrozumiały szok. Co się stało z tak bliską memu sercu gazetą? Przyznam się, że nie poczuwam się Białorusinką, po prostu jestem „tutejszą", pochodzę z byłego powiatu sokólskiego, z gminy Szudziałowo. Babcia moja była prawosławną, dziadek — katolikiem. W domu rozmawialiśmy językiem „prostym", czyli białoruskim. Obchodziliśmy święta prawosławne i katolickie i nikomu to nie przeszkadzało. Jestem katoliczką, lecz czasami uczęszczam do cerkwi na Wygodzie.

Tyle dygresji o sobie. A teraz chciałabym zadać kilka pytań do osób, które wywołały ten rozgardiasz. Czym kierował się autor artykułu w „Niwie" nr 24 podpisany „prawnik naukowy na emeryturze" pisząc, że każdy katolik na Białostocczyźnie i Białorusi jest członkiem V kolumny, wyszczególniając kilkanaście nazwisk — Poźniak, Szuszkiewicz, Łatyszonek i inni. Szanowny „czytelniku „Niwy" z Hajnówki" i „prawniku naukowy na emeryturze", jako zwykła śmiertelniczka nie rozumiem, co to jest „V kolumna polska" i jakie jest jej zadanie szczególnie tu, na Białostocczyźnie; wytłumaczcie, proszę was bardzo.

Szanowny panie „naukowcu na emeryturze", chcę zapytać ile ma pan lat. Jeżeli jest pan po dziewięćdziesiątce, to nie ma o czym dyskutować. Pan przez swoją głupotę chce doprowadzić tu, na Białostocczyźnie, do waśni religijnej. Pytam się, jakie ma pan szanse stanąć przeciw katolickiej większości? Czy zapomniał pan tragedię lat powojennych? Udziela pan porady dla p. Łatyszonka, by porzucił tak „mierny zawód dziennikarza gazety «Niwa»". I to porady takiej udziela rzekomo oddany Białorusinom patriota. Kto o to pana prosi?

Bardzo słuszną postawę zajął w omawianej sprawie p. Mikołaj Panfiluk („Niwa" nr 28, str. 5). To naprawdę trzeźwo myślący i rozważny człowiek. Również p. Władysław Klimek z Gorzowa Wielkopolskiego podzielił zdanie p. Panfiluka (tamże).

Jeżeli chodzi o dalszych korespondentów, to bardzo dużo dowiedziałam się o działalności księży katolickich na rzecz Białorusi w okresie międzywojennym z listu p. Justyna Prokopowicza. Zastanawiam się, czy mogło to być w rzeczywistości prawdą, bo nigdy nie zetknęłam się z jakąkolwiek publikacją na ten temat. Uważam, że p. Prokopowicz spostrzegł, że autorzy listów coś knują i dlatego tak ostro zareagował. Moim zdaniem podsycanie lub prowokowanie waśni na tle religijnym, to już nie prowokacja, lecz zbrodnia. Określenie „prowokatorzy" w tym przypadku jest bardzo łagodne. Na wszczynanie waśni religijnych i narodowościowych pozwalać mógł tylko przywódca Serbów Karadžić. Czy i szanowny pan „prawnik naukowy na emeryturze" też do tego zmierza?

I oto w „Niwie" nr 30 (str. 10) zjawił się nowy naukowiec — niby adwokat „prawnika naukowego" — i zaczął gromić i zastraszać sądem Bogu ducha winnego Prokopowicza, nie wspominając ani słowem o twierdzeniu „prawnika naukowego" i „czytelnika z Hajnówki", że każdy katolik jest członkiem „V kolumny polskiej". Adwokat — przepraszam, p. Michał Gurynowicz — raczył dawać wskazówki i pouczać, jak należy dobierać słowa pisząc artykuły, nie szczędząc p. Prokopowiczowi siarczystych epitetów. Panowie „naukowcy", raczycie pouczać innych, a sami używacie nie licujących dla kulturalnego człowieka epitetów.

Pan M. Gurynowicz pisze, że słowo „prawosławny" to rzecz święta. Nie neguję tego, nawet Józef Stalin był prawosławnym, a do tego skończył prawosławne seminarium duchowne. Czy i on dla p. Gurynowicza też jest świętym?

Zastanawiając się nad treścią listów p. Gurynowicza, „pracownika naukowego na emeryturze", „czytelników z Hajnówki i Bielska Podlaskiego" doszłam do wniosku, że ich autorem jest jedna i ta sama osoba, którą jest nie kto inny, a tylko p. W. P. Jest to, jak wskazywano w „Niwie", zasłużony „Major". Tak, tak, p. „Majorze", według pana to katolicy są wrogami Białorusinów i członkami wymyślonej przez pana V kolumny polskiej. Pytam, do jakiej kolumny należy pan i pańscy współwyznawcy?

A może p. Gurynowicz, jako obrońca poczciwego „pseudonaukowcа", zechce zabrać głos i poinformować czytelników o tej V kolumnie? Och, jakaż to herezja... „Niwo", gazeto moja, co z tobą się dzieje?!! Byłaś naprawdę lubianym tygodnikiem, a teraz stałaś się brukowym pismem, zajmującym się tzw. pyskówkami.

Kończąc, chcę zaapelować do p. „Majora" vel „pracownika naukowego na emeryturze" vel „Michała Gurynowicza", by swoje porady i wskazówki przekazali swym dzieciom i wnukom, o ile takowe posiadają. Od wiary katolickiej, panowie, stanowczo mówię wara!

**Zofia W.**

*(nazwisko i adres do wiadomości redakcji)*

PS. Chcę zapytać, czy autorom listów wypłacacie honoraria i w jakiej wysokości? „Niwa" jest sponsorowana przez Ministerstwo Kultury i Sztuki, a my wszyscy, bez względu na przynależność wyznaniową, płacimy podatki, z których pewna część przydzielana jest „Niwie". Czyż można pogodzić się z tym, by jakiś niezrównoważony typ nawoływał do waśni religijnych? Czekam na rzetelną informację na łamach „Niwy". Honorarium nie wymagam. **Z. W.**

**Ад рэдакцыі:** Пані Зофія, публікацыі, на якія вы спасылаецеся, гэта лісты чытачоў, а не пазіцыя рэдакцыі. Змест вашага ліста таксама цяжка назваць экуменічным і, мабыць, з прычыны гэтай публікацыі многія чытачы акрэсляць „Ніву" як „бульварную газету, якая займаецца лаянкай". Канешне, можна было б такую дыскусію, па прыкладзе нядаўняга мінулага, падвяргнуць цэнзуры, але тады ніколі вы не даведаліся б, што думае чытач з Гайнаўкі і наадварот: яму не прыйшлося б пазнаёміцца з вашымі поглядамі. Але ці „Ніва" будзе лепшай, калі замест непрыгожай рэчаіснасці будзем прадстаўляць цудоўны, але неіснуючы, вобраз акружаючага нас свету? Нам таксама сумна, што ў вашым выказванні столькі нянавісці да праваслаўных хрысціян. А вы быццам бы таксама хрысціянка, толькі каталіцкага веравызнання. Ці хрысціяне, у якіх столькі нянавісці, з'яўляюцца яшчэ хрысціянамі?... Мы яшчэ раз прачыталі допісы, якія парушылі ваш спакой. Многа ў іх розных эпітэтаў, таксама і ў наш адрас, але нівodзін ліст не заклікае да рэлігійнай варажнечы. Інфармуем таксама, што аўтарам лістоў ганараraў не плацім, таму што датацыі, аб якіх вы ўспамінаеце, выглядаюць інакш, чым уяўлені аб іх.

З вашага ліста мы ўстаранілі толькі тыя фрагменты, якія маглі б паслужыць падставай для абвінавачання рэдакцыі перад судом у нанясенні маральнага ўрону асобам, названым у публікацыі па імені і прозвішчы, а таксама ў прапагандаванні рэлігійнай нянавісці.

# Палемісты

Міхал Гурыновіч у 30 нумары „Нівы" ад 28 ліпеня гг. піша, што „polemika wymaga kultury słowa". Напэўна так, але, як співаў яўрэй Тэўе-малочнік з вядомага кінафільма паводле аднайменнай аповесці Шолам-Алейхема, кожная справа мае два бакі. З аднаго боку маем культуру слова, з другога — сутнасць справы. Можна весці палеміку культурна так доўга, што пагляд аўтараў ніяк не даведаешся. Умелыя палітыкі, каб перамагчы праціўнікаў, карыстаюцца метадам „na przetrzymanie". У выніку доўгай і ўмелай дыскусіі, калі праціўнікам зусім паблытаюцца аргументы, прапановы прымаюцца аднадушна.

А справа, пан Міхал Гурыновіч, зусім простая: ці мае існаваць самастойная, вольная і дэмакратычная Беларусь, ці не? Калі так, то простым вокам відаць, хто хоча незалежнай Беларусі: Лукашэнка з кампаніяй, ці дэмакраты з апазіцыі.

Панясло таксама другога палеміста Юстына Пракаповіча. І хаця ён так горача палемізаваў з аўтарамі лістоў у „Ніве" н-р 24, ніхто з іх не канкрэтнага не лаяў. Але пан Міхал Гурыновіч піша, што „w tym opętańczym tańcu oskarżeń biedny w rozwagę, a bogaty w nienawiść spadar Prakapowicz zapomniał...", а далей: „Tymczasem sam nie wiadomo, czy uczęszczał do jakiejś szkoły. Tak to bywa. Jak Pan Bóg chce kogoś pokarać, to mu rozum odbiera. I unieszkodliwił szare komórki spadara Prakapowicza". На падставе гэтых некалькіх сказаў можна канстатаваць: не смейся, гарох не лепшы за бабы. Пан Міхал Гурыновіч павінен ведаць, што ваяваць можна толькі з поглядамі палеміста, ніколі з ім самім і з яго szarymi komórkami, бо за гэта пагражае суд.

**Міхась КУПТЭЛЬ**

PS. У адносінах да Міхала Гурыновіча прымяняў я форму пан, а не спадар, паколькі ён у сваёй палеміцы слова спадар ужываў з нейкай зласлівасцю і іроніяй. Значыць, выгадней яму быць панам або Міхаілам, чым проста і па-беларуску спадаром. **М. К.**

# Генін клуб

У досыць вялікай вёсцы, скажам, С., каб да нас ніхто не чапляўся, жыве цяпер Генавефа, паспаліта званая Геняй. Генавефа, хоць не надта гожай у дзеўках хадзіла, ды і даўгавата зрэшты, пад свае 55 знайшла сабе аматара — спакойнага, працавітага хлопца, Вальдака, маладзейшага ад яе на гадоў з 13, здаецца. З суседняе гміны Вальдак быў. Спачатку паехала Геня жыць да яго, бо гаспадар быў някепскі, з трактарам і ўсім да яго, толькі аднаго ў хаце бракавала — гаспадынькі. У сваты ў М. павёз яго быў хросны бацька, дзядзька Міхал. Кажуць, на злосць нейкую пляменніку, бо калісьці Генавефа адкінула яго залёты. Але пры чым тут Вальдак? Бо які ж быў вынік жыцця сужонства ў М.! За два гады Генавефа, гандлюючы „на вынос" „раялем" і іншымі чартоўскімі штучкамі, выдуманымі на пагібель мужыкам, спляжыла іх з паўваколіцы. Падумайце, у два гады! Узброіліся бабы, хто ў качаргу, хто ў качалку, дзяркач ці нават мужаву стрэльбу ды рушылі да Цыпрукоў радыкальна вырашыць справу. Генавефа са зламаным носам апынулася ў бальніцы. Ейная цётка з Беластока, Вэра, намаўляла Геню пайсці на паліцыю паказаць *corpus delicti* ды свае сінякі і царапіны (усё ж найбольш Генавефа страціла валасоў, бо бабы якраз у іх учэпістыя), але тая пабаялася: паліцыя ж даведаецца тады, за што яе так адлупцавалі!..

Вяртацца ў М. пабаялася. Прадаў Вальдак трактар і машыны, частку зямлі аддаў у арэнду (на рэшту ніхто не паквапіўся, хоць гатоў быў яе дарам аддаваць) і пераехаў са сваёй *малжонкай* у яе родную вёску. Абабілі хату, адмалявалі яе ўсярэдзіне, ну, проста як у клубе зрабілі. Людзі адразу звычылі, што Генавефа „клюб" строіць, бо ў вёсцы, а хто ж лепш ведаў за Генавефу, моладзі і старэйшым не было дзе спаткацца. Такі „клюб" быў проста неабходны. Годзе валяцца юнакам і дзядзькам у лапухах за *склепам*!

Цяпер Генавефа не прадае „малако ад шалёнай каровы" ў рукі. Сёння, каб выпіць гарэлку, трэба гэта зрабіць у „гасцінай" Цыпрукоў. Хай напоем будзе „раял", „чыстая", „сталічная" ці нават *сівушка* (як каму на кішэнь падыдзе), трэба ўсё гэта закусіць, па-людску, для здароўя. Вядома, закусь рыхтуе гаспадыня, а „канапкі" ўмее рабіць яна эстэтычна, з густам (сальцісон, кашанка, кульша, сала, да таго, вядома, хлеб, — хочаш, белы, хочаш, чорны, апроч таго ж яшчэ салат, перац, гурочак свежы або салены, цыбулька, каб вітамінкі трапляў і ў далікатныя страўнікі гурманаў). Вядома, такая адмысловая закусь таксама сваё каштуе. І добра, што ўсё так культурненька, людзі пад платамі не валяюцца, бо і выспацца тут можна ў цяпле, не на пяску.

Нядаўна вось нават цётка Вэра прыехала на вакацыі, бо „інтарэс раскруціўся". Цётка яшчэ больш падабаецца наведвальнікам „клюбу", бо хоць у гадах ужо яна, то прыгажэйшая за Генавефу, уставіла вось сабе новыя пашчэнкі, пафарбавала волас у пунсовы колер, бо ж мястовая, шыкоўная з яе кабета. Ужо да цёткі Вэры пачалі заляцацца ў вёсцы С. і аколіцы. Але яна чамусьці не хоча *на стале*, бо, папраўдзе, у С. сумна і нудна. Не маюць людзі культурных патрэб. Ано ўключай ім *disco polo*, „Граммаду", „Аса" ды „Раяля", ці як яму там будзе.

Запрапанаваў я Генавефе, каб зарэгістравала сваё культурна-гастраномнае прадпрыемства. А яна аж затраслася:

— Дурныя вы, дзядзька Вандал, ці што?! Зрэшты, хто гарэлкі не любіць, той дурны або хворы. А мне чаго падаткі плаціць? І так зарабіць даю дзяржаўнай манаполіі і да вашай пенсіі даплачваю. Так вось, бачыце, з мяне жыве ўся краіна.

**Вандал АРЛЯНСКІ**

# ПОЗІРК У МІНУЛАЕ

**18 жніўня**

1227 г. — памёр Чынгісхан, мангольскі ўладар.

1850 г. — памёр Анарэ дэ Бальзак, французскі пісьменнік.

1933 г. — нар. Раман Палянскі, польскі рэжысёр.

**19 жніўня**

1071 г. — у бітве пад Манцыкертам ва ўсходняй Анатоліі турэцкія войскі разбілі візантыйскую армію.

1506 г. — памёр Аляксандр Ягелончык, польскі кароль.

1662 г. — памёр Блез Паскаль, французскі філосаф.

1871 г. — нар. Орвіл Райт, амерыканскі пачынальнік авіяцыі.

1936 г. — у Маскве пачаўся першы паказны працэс супраць антыстанінскіх апазіцыянераў. Усе 16 абвінавачаных засуджаны на смерць.

1946 г. — нар. Біл Клінтан, 42-гі прэзідэнт ЗША.

1969 г. — пасля цяжкіх сутычак каталікаў з пратэстантамі, у Паўночную Ірландыю ўведзена брытанская войскі.

**20 жніўня**

1908 г. — бельгійскі кароль Леапольд II перадаў дзяржаве сваю ўласнасць — калонію Конга.

1968 г. — войскі Варшаўскага пакта ўварваліся ў Чэхаславакію.

**21 жніўня**

1192 г. — самурай Ёрымота Мінамота аб'яўлены сёгунам, найвышэйшым у феадальнай Японіі званнем; пачатак панавання сёгунаў, якія адхілілі ад улады кесараў.

1810 г. — пасля смерці бяздзетнага Карла XIII, шведскі парламент выбраў французскага маршала Бэрнадота каралём Швецыі Карлам XIV.

1991 г. — правал перавароту ў СССР; вывад танкаў з Масквы.

**22 жніўня**

1864 г. — у Жэневе падпісана канвенцыя аб паляпшэнні долі раненых салдатаў і аб шанаванні сімвалаў Чырвонага Крыжа на вайне.

1904 г. — нар. Дэнг Сяо-пін, кітайскі палітык.

1986 г. — у выніку вытоку ядавітых газаў з вулканічнага возера ў Камеруне атруцілася каля 1750 чалавек.

**23 жніўня**

1572 г. — у „ноч св. Варфаламея" ў Парыжы каталікі забілі каля трох тысяч пратэстантаў.

1903 г. — сіяніцкі кангрэс у Базелі (Швейцарыя) вырашыў прыняць практычныя меры дзеля заснавання яўрэйскай дзяржавы ў Палесціне.

1926 г. — памёр Рудольф Валенціна, амерыканскі акцёр.

1939 г. — у Маскве падпісана савецка-нямецкі дагавор аб ненападзенні.

1991 г. — расейскі прэзідэнт Барыс Ельцын забараніў дзейнасць кампартыі.

**24 жніўня**

79 г. — вывяржэнне Везувія знішчыла гарады Пампеі і Геркуланум, у выніку чаго загінула каля 20 тыс. чалавек.

1814 г. — падчас англа-амерыканскай вайны брытанскія войскі занялі Вашынгтон і падпалілі ўсе ўрадавыя будынкі; у іх ліку і Белы дом.

1899 г. — нар. Хорхе Луіс Борхес, аргенцінскі пісьменнік.

1989 г. — Тадэуш Мазавецкі паклікан ы на пост прэм'ер-міністра Польшчы.

1991 г. — генсек ЦК КПСС Міхаіл Гарбачоў выступіў з кампартыі. **(Ш)**

# ПАРНАСІК

### Родная мова не прападзе

Родная мова, гэта свабода,
Не страшна і цяжкая работа.
Калі мы разам працуем,
Тады не гаруем.
Цэнім мы свой труд,
Адкідаем нязгоды і бруд.
Ніхто нас тады не закабаліць
І ў гурце духоўна не разваліць.
Згоды нам трэба, як сонца
Загляне ў наша ваконца.
Промні няхай зіхацяць,
Каб усіх нас на ногі падняць.
Часта жывем мы ў цемры —
І каму тады мы верны?
Таму, хто з нас жыва смяецца!
За свае інтарэсы ён б'ецца...
Ніхто за нас не будзе змагацца
І недзе за нас заступацца.
Калі мы самыя не падымем голас
Без страху, што ўпадзе нам волас.
Гэта барацьба за сваё існаванне,
Вернае, геройскае змаганне.
Любіць, паважаць друг друга,
Гэта перад Богам паслуга.
Не трубіць, што мы нязДольныя правіць
І сваю родную краіну праславіць.
Народ наш жыў у пагрозе,
Але не ў свабодзе;
Таксама ў галадзе, пагардзе
І сталінскай варце.
Прыйдзе час, што наш народ прачнецца
І песні голас разальецца,
Калі родная мова вернецца,
Праца на ніве беларускай разгарнецца.
Не саромемся роднай гутаркі,
Не граць нам у жмуркі.
Гаварыць смела і мову прапагаваць,
І свой народ праслаўляць.
Браць прыклад з роднай „Нівы",
Тады будзем смелы, не баязлівы.

**Мікалай Панфілюк**

# Наш адрас: Zamenhofa 27
# Наш новы ☎ 435–022




Мал. А. ВЯРБІЦКАГА



*На пашы.* Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# Двухлітарная крыжаванка

**Гарызантальна:** 1. важны сустаў, 3. горад у Японіі на востраве Кюсю, 5. сталіца Кубы, 7. румынскі мастак, 9. гістарычная краіна ў паўночна-заходняй Грэцыі, 10. насякомае сямейства жукоў, 11. паміж інфрачырванню і ультрафіялетам, 12. мова пакістанцаў, 14. штат у ЗША, 16. раслінка, 17. вестка.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 2 | | 3 | | 4 |
| | ■ | 5 | 6 | | ■ | |
| 7 | 8 | ■ | | ■ | 9 | |
| | 10 | | | | | |
| 11 | | ■ | | ■ | 12 | 13 |
| | ■ | 14 | | 15 | ■ | |
| 16 | | | | 17 | | |

**Вертыкальна:** 1. рэстаран з эстрадай, 2. у шкарпэтцы, 3. сталіца Йемена, 4. уласнік банка, 6. плод воўчага лыка, 8. космас, 9. старажытнагрэчаскі матэрыяліст, 11. з кнотам, 13. дубовая драўніна, 14. паўднёвае пладовае дрэва, 15. канчына. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 26 н-ра:**

**Гарызантальна:** скок, Катар, афіцэр, хром, Пегас, аматар, Каспараў, расол, талісман, Баланчын, Дурэс, фарватэр, сарока, Нарач, блін, Індура, гарох, твар.

**Вертыкальна:** Сапега, малако, Курапаты, камар, Кіраў, чэрап, саланчак, малібдэн, рыба, соль, Амур, аніс, Антаніна, ураган, эталон, вайна, фокус, Рабат.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Лукашу Пацэвічу** з Беластока і **Юрасю Сцяпанаву** з Віцебска.

Ніва

„Niwa"
ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435-022.
Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.
**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata.**

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1996 r. upływa 5 września 1996 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 9,10 zł (91 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,45 zł (14 500 starych zł), a kwartalnie — 18,85 zł (188 500 starych zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-2700-1-08.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Ніўка

## Эпіграмы з антыподаў

**Пераможца**

Запрагліся мы ў плуг,
арэм нашы загоны.
Сеем зерне нашай долі,
каб не было недароду
беларускаму народу.
Ён арэ і я ару,
ён наперадзе, а я ўслед.
Перада мною — Віктар Швед!
Хоць малодшы за мяне
на поўных пятнаццаць год,
ды ў паэзіі ён старэйшы,
мо і розумам мудрэйшы.
Позна я пачаў пісаць,
Хачу Віктара дагнаць.
Сцеражыся, mister Швед,
Даганяе стары дзед!
*Пераможца — Victor* значыць,
Ды як будзе — вось пабачым.

**Сымон Шаўцоў**
**Аўстралія**

## Як я вылечыў жонку

Разбалеўся раптам у жонкі жывот.
— Схадзі, — кажа мне, — да знахара.
Я на світанку пайшоў.

За ваколіцай сустрэў старога знаёмага Сцяпана, які касіў траву.

— Прысядзь. Даўно цябе не бачыў, пагаворым, — ён дастаў з торбы бутэльку. — Малання дала, каб траву скасіў.

Выпілі. Потым ён яшчэ схадзіў да Маланні. Сонца паднялося, прыгрэла. Я прылёг на пракос і заснуў. Калі прачнуўся, ужо было позна ісці да знахара. А Сцяпан кажа:

— Не турбуйся, я ўжо адну старую вылечыў. Зачарпні вось у гэту пляшку ў рэчцы вады, соль ёсць, усё зробім...

Прыйшоў я дамоў, аддаў жонцы ваду, а яна неўзабаве кажа:

— Усё-такі знахар — ёсць знахар, не тое, што наша фельчарка. І пятнаццаці хвілін не прайшло, як глынула той вадзіцы, і во, адразачку зрабілася добра!

**Антон Манюкевіч**



*— Вы, відаць, адпачывалі на поўдні без жонкі?*
*— А як вы, доктар, здагадаліся?*

Мал. Ю. САМАРЫНА

## Новая партыя ў Беларусі

У рэспубліцы ствараецца Партыя аматараў беларускага сала (ПАБС), статут якой перададзены ў Міністэрства юстыцыі для рэгістрацыі. Заснавальнік і арганізатар партыі — С. М. Часнаковіч. Да 1991 года з'яўляўся кандыдатам у члены камуністычнай партыі, пераемніцай якой у пэўнай меры будзе ПАБС.

Наш карэспандэнт сустрэўся з кіраўніком новага грамадскага руху. Вось што расказаў у гутарцы з ім Святаслаў Мечыслававіч:

— На Беларусі цяпер існуе многа розных плыняў і напрамкаў палітычнай і грамадскай думкі. Ёсць нават партыя аматараў піва. Але да гэтага часу не было ніводнага згуртавання добрай закусі. Я лічу гэта сур'ёзным недаглядам на палітычнай арэне краіны, таму прыступіў да стварэння партыі новага тыпу. Тым больш, што я і ўся мая сям'я — мы з'яўляемся сапраўднымі аматарамі нашага айчыннага сала, і такіх патрыётаў у нашай краіне нямала...

Далей С. М. Часнаковіч спыніўся на задачах і планах ПАБС. У прыватнасці, бліжэйшай мэтай ён лічыць барацьбу за зніжэнне кошту свініны на рынках і ў дзяржаўным гандлі, за павышэнне яе тлустасці і каларыйнасці. Партыя пакуль што не ставіць задачу вырошчваць свініну намаганнямі сваіх членаў... Членскія ўзносы будуць прымацца ў натуральным выглядзе — прыкладна па два кілаграмы сала ў квартал.

Крыху аб асобе С. М. Часнакова. 42 гады, часова не працуе. Быў выкладчык мяса-малочнага тэхнікума, дзе прыахвоціўся да сала. Жанаты. Жонка працуе бухгалтарам, сын — вучань восьмага класа. Яны і склалі палітбюро новай партыі.

**Васіль Феранц**
*„Вожык"*

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

— Што ты нарабіў, — лямантуе жонка, сустракаючы мужа. — Наша гаспадыня адышла ад нас: сказала, што ты ёй нагрубіяніў.

— Гэта памылка; я думаў што гавару з табою.

* * *

Гутараць дзве сяброўкі:
— Што трэба зрабіць, каб у шлюбную ноч не пабрудзіць пасцелі?
— Трэба вечарам памыць ногі.

* * *

Жонка завяла мужа ў футравую краму:
— Глянь толькі: вось футра — гэта паэма, акурат на мяне!
— Праўда, праўда. Толькі ніхто сёння не купляе паэзіі.

* * *

Да багацея прыходзіць малады чалавек:
— Кахаю вашу дачку! Хаця не маю ні грошай, ні прафесіі, ні грамадскай пазіцыі, аднак мая любоў да яе такая вялікая, што асмельваюся прасіць яе руку.
— А каторай з маіх дачок вы, малады чалавек, зацікаўлены?
— Гэта астаўляю вырашыць вам.

* * *

Сакратарка просіць у дырэктара павышэння зарплаты.
— Гэта немагчыма, — адказвае дырэктар, — не маю на гэта грошай.
— Ой, бо пачну пісаць дзённікі.

## Меў рацыю

Пазнаёміўшыся за куфлем піва, завялі неяк спрэчку чацвёра мужчын: рабочы, служачы, селянін і прадпрымальнік — хто раней за ўсіх устае?

Селянін кажа: „Мой певень".

Служачы кажа: „Мой начальнік".

Прадпрымальнік кажа: „Злодзей".

А рабочы прамаўчаў ды кажа: „Пеўня не маю, злодзею ў мяне красці няма чаго, а начальнік мой зусім не спіць, бо завод не працуе. Дык навошта дурныя спрэчкі заводзіць?"

Як заўсёды, рабочы клас меў рацыю.

**Генадзь Пятроўскі**

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка! Мы з мужам пражылі ўжо 16 гадоў. Штогод, калі набліжалася лета, мы выязджалі ў водпуск. Я не кажу, што былі гэта заўсёды заморскія краіны, але пару разоў адпачывалі мы і на цёплых морах. Найчасцей мы ездзілі на вёску да бацькоў (маіх ці яго), або ў дом адпачынку з дзецьмі на так званы сямейны адпачынак. Мне было добра, хаця даволі клапатліва з малымі дзецьмі. Я ніколі не магла сабе ўявіць, як бы гэта я магла паехаць кудысьці адна і адпачываць, кінуўшы мужа і дзяцей.

І раптам... неспадзеўка! Муж мой, які ніколі нават не дапускаў такой думкі, што я паеду без яго, кажа мне: „Паедзь кудысьці і адпачні, табе гэта належыцца за цэлы год цяжкой працы!" Так і сказаў, дадаўшы, што дзеці ўжо немалыя, дык ён іх падкіне сваім бацькам, а сам будзе туды пад'язджаць на суботу і нядзелю. У будныя дні, хаця ён будзе ў водпуску, пастараецца зрабіць пару дадатковых прац, каб крыху дарабіць. На ўсіх сёлета і так грошай не хопіць.

Так сказаў, а я, дурніца, яму паверыла. Думаю, Божачкі, чаму я да яго чаплялася, калі ён такі добры?! Што грошай на ўсё не хапала, я і сама добра ведала. Не думала я аднак, што мой муж акажацца такім высакародным чалавекам. Сам будзе зарабляць дадатковыя грошы ў часе водпуску, а мяне высылае на адпачынак...

Калі я выехала на мора, пачалі мяне мучыць розныя неспакойныя думкі. Як гэта так, няўжо не хапіла б нам прынамсі на дваіх, дзяцей жа ўжо неабавязкова было браць з сабой, яны ж ужо вялікія. Усплыў перад вачыма апошні год нашага супольнага жыцця. Муж вяртаўся позна. Часта я ўжо нават спала. Клаўся ў іншым пакоі — „каб не будзіць мяне". Усё звальваў на дадатковую працу. Амаль не сустракаліся мы ў пасцелі. Вечна ён быў перамучаны, а то балела яму галава.

Нягледзячы на тое, пару разоў я пачула ад яго пах алкаголю, а калісьці і цалкам прыемны арамат жаночай парфумы. Што ты, што ты, сказаў ён мне тады, гэта ж у мяне такія дасціпныя сяброўкі на рабоце, аблілі мяне туалетнай вадой, „каб разлосціць жонку"!

Момантамі ў маіх думках усё пачынала клеіцца ў адну цэласць. І тое, што такі актыўны сексуальна чалавек, як мой муж, спасылаўся на галаўны боль, калі я тулілася да яго, і яго неспадзяваная ахвота „працаваць дадаткова", і тыя нечаканыя араматы, якія прыносіў дахаты мой „змучаны" муж, — усё гэта, узятае разам, не давала мне спакою. Тады нямілыя былі мне ні тая вясёлая кампанія, у якую мяне пастаянна запрашалі, ні той „цудоўны" самотны адпачынак, у які накіраваў мяне мой муж.

Усё абрыдла, я не магла дачакацца той хвіліны, калі вярнуся дахаты і ўбачу мужа і дзяцей. Адначасова непакой, які пасяліўся ў маім сэрцы, пхаў мяне да нечага непрыстойнага. Хацелася праверыць мужа, нават даведацца нешта пра яго інтымныя справы „на баку", зрабіць прыкрасць яму і... сабе. Ну, кажу табе, Сэрцайка, мазахізм і годзе!

Са свайго няшчаснага адпачынку я выехала на тры дні раней, чым дамовілася з мужам. (Ён меў сустрэць мяне на вакзале і адвезці дахаты на сваёй машыне.) На месцы я ўзяла таксі і праз дзесяць мінут была дома. Было ўжо позна, амаль поўнач. Укладаю ключ у дзверы, а яны не адчыняюцца. Я стукаю, ніхто мне не адчыняе. У першы момант мне здалося, што ў дзвярах сапсаваўся замок. Ужо хацела ісці начаваць да сваячкі. І раптам я пачула нейкі шорах за дзвярыма. Тады ўжо я пачала грукатаць у дзверы. Адчыняй, кажу. Адчыняй, падла! Адчыняй, бо выклічу паліцыю! Гэткая размова працягвалася мо паўгадзіны. Раптам чую: дзверы адчыняюцца. На парозе стаіць мой дарагі муж, ужо апрануты, а воддалі, у пакоі, сядзіць і пакурвае яго каханка.

Даражэнькае Сэрцайка! Можаш сабе ўявіць, які скандал я закаціла майму мужу. „Вон сука!" — сказала я той бабе, а яна хуценька і ўцякла. Мой муж нават не пайшоў яе правесці. Сама не ведаю, што рабіць. Ён разводу не хоча.

**Ірэна**

Ірэна! Думаю, што сексуальныя магчымасці твайго мужа знайшлі сваё адлюстраванне ў гэтай бабе. Невядома, ці была яна ў яго першая, з якой ён табе здрадзіў. Мо толькі цяпер ты здагадалася. Добра аднак, што не хоча разводу. Значыць, усё тое не было сур'ёзнае.

Магу табе сказаць адно: не варта ездзіць самой на адпачынак.

**Сэрцайка**